НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 26 (863) 16 ліпеня 2014

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады







Старонка 3.

# Гебельс сёння








**Беларуска, якую 4-гадовай дзяўчынкай прадалі цыганам, стала каралевай прыгажосці і адшукала свае карані**

Старонка 5.

# Ва Украіне ствараюць беларускі добраахвотніцкі атрад «Пагоня»

Атрад фарміруецца на Валыні для грамадзян Беларусі, якія хочуць служыць у шэрагах Міністэрства ўнутраных спраў на ўсходзе краіны. Пра гэта паведаміў намеснік старшыні Валынскай абласной рады Ігар Гузь.

«На нас выйшлі беларусы, гатовыя абараняць Украіну, — сказаў ён. — Мы з імі пагутарылі і выйшлі на такі фармат, што будзе невялікае падраздзяленне».

Гузь паведаміў, што цяпер падрыхтоўку ва Украіне праходзяць пяцёра беларусаў. А на заклік, размешчаны ў інтэрнэце, прыйшло шэсць дзясяткаў запытаў. Праўда, на ягоную думку, большасць з іх склалі лісты ад супрацоўнікаў спецслужбаў, якія проста зандуюць сітуацыю.


Ігар Гузь і адзін з байцоў «Пагоні»

### Баец «Пагоні»: Мы не наёмнікі!

Адзін з байцоў спецатрада «Пагоня» адказаў на пытанні «Нашай Нівы» праз Фэйсбук, фота даслаць адмовіўся з меркаванняў бяспекі.

**— Каму належала ідэя стварэння атрада «Пагоня»?**

– Невялікаму колу беларусаў, якія вырашылі ехаць на ўсход Украіны, дапамагчы ў вайне з тэрарыстамі.

**— Якім чынам у атрад набіраюць людзей?**

— Пакуль яшчэ нікога не набіралі. Першы атрад — гэта кола сяброў. Далей будзем выпрацоўваць тэхналогію набораў, каб пазбегнуць засланых казачкоў з органаў.

**— Які будзе юрыдычны статус такіх байцоў?**

— Мы не цікавіліся юрыдычнымі пытаннямі, мы проста робім тое, што трэба рабіць у дадзенай сітуацыі.

**— Наёмніцтва ў Беларусі забаронена законам. Таму які статус можа мець служба і ў чым яна будзе заключацца?**

— Мы не наёмнікі. Мы ідзём не за грошы, а ваяваць з тэрарыстамі і карнымі атрадамі, фінансаванымі з Расіі! Наконт свайго статусу — мы проста добраахвотнікі, на сваю ўласную адказнасць.

**— Чаму, па-Вашаму, беларусам на сёння важна дапамагаць Украіне?**

— Па-першае, таму што нельга заставацца абыякавым да братняга гора. Па-другое, Украіна цяпер ваюе за сваю незалежнасць з нашым супольным ворагам — крамлёўскай мафіяй.

**— У інтэрнэце размешчана абвестка пра збор сродкаў на бронекамізэлькі для байцоў «Пагоні». Іх збірае інтэрнэт-актывістка Таня Елавая. Ці дзяўчаты могуць служыць у атрадзе?**

— Пакуль у атрадзе трэніруюцца выключна хлапцы, далей пабачым. А Таццяна — акрамя таго, што проста прыгожая дзяўчына, вельмі адказная, ідэйная і баявая, не здзіўлюся, калі яна таксама будзе ў атрадзе.

**— Ці магчымае накіраванне беларусаў у зону баёў?**

— Адразу па сканчэнні трэніровак мы выязджаем у зону праведзення антытэрарыстычнай аперацыі.

Пакуль што ўцягваемся ў вайсковае жыццё. Пакуль цяжка, але, як кажуць, «цяжка ў навучанні, лёгка ў баі».

Мікола Бугай

**«Адзін так ужо з’ездзіў»**

Для кантакту з арганізатарамі «Пагоні» прапануецца электронная скрыня, яе адрас размясцілі ў інтэрнэце. Але ж электронную пошту ў нас у краіне чытаюць. «Таму пасля ліста на гэтую пошту на наступны дзень цябе запрашаюць на размову ў галоўнае ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю для прафілактычнай гутаркі. Адзін знаёмы так ужо з’ездзіў. Будзьце асцярожныя», — паведамілі ў сваёй суполцы фанаты мінскага «Тарпеда».

ЯМ

# Снайперка з Барысава: **У мяне быў аўтамат Вася, а цяпер вінтоўка Крысціна. Я забіваю ворагаў**

У інтэрнэце з’явілася чарговае інтэрв’ю з беларускай Наталляй Красоўскай, якая ваюе ва Украіне на баку ўзброеных сепаратыстаў.

Барысаўка расказала, што да не маці прыходзілі з КДБ. Але Наталля стаіць на сваім. «Я забіваю ворагаў, — хваліцца яна. — Так і ёсць, я забойца. Я не баюся гэтага слова», — кажа яна на камеру.

Жанчына носіць камуфляжную форму з нашыўкай у выглядзе афіцыйнага дзяржаўнага сцяга Беларусі і георгіеўскай стужкай. «У мяне быў аўтамат Вася, а цяпер вінтоўка Крысціна», — расказвае яна.

Раней паведамлялася, што Наталля Красоўская затрымана ўкраінскімі вайскоўцамі, але інфармацыя не пацвердзілася.




**Найміцтва**

Крымінальны кодэкс Беларусі

Артыкул 133. Найміцтва

Удзел на тэрыторыі замежнай дзяржавы ва ўзброеных канфліктах, ваенных дзеяннях асобы, якая не ўваходзіць у склад узброеных сіл ваюючых бакоў і дзейнічае ў мэтах атрымання матэрыяльнага ўзнагароджання … караецца пазбаўленнем волі на тэрмін ад 3 да 7 гадоў.

## Сціісла

**Плаціш за кватэру наяўнымі — заплаціш больш**

Старшыня Нацбанка Надзея Ермакова прапануе ўвесці дадатковую камісію за прыём наяўных плацяжоў на пошце. Гэта мусіць стымуляваць грамадзян да пераходу на выкарыстанне інфакіёскаў.

**Ад трох да сямі хранічных захворванняў**

Паводле сацыялагічнага даследавання РНПЦ «Кардыялогія», сярэднестатыстычны дарослы беларус мае ад трох да сямі хранічных захворванняў. Нават пры хранізацыі захворванняў па медыцынскую дапамогу звяртаюцца толькі 57% беларусаў. А вось 47% апытаных займаюцца самалячэннем.

**Якія каровы самыя малочныя**

Белстат падлічыў, у якіх рэгіёнах краіны каровы далі найбольшыя сярэднія ўдоі. Наперадзе Гродзенскі і Нясвіжскі раёны. У іх кожная карова прыкладна дала за год 7 тон малака.

**Першая запраўка для электрамабіляў**

Яе адкрые прыватная кампанія «А-100». Падзарадзіць аўто можна амаль на любой запраўцы і цяпер, аднак гэта зойме 7—8 гадзін. А на спецыяльнай запраўцы на гэта спатрэбіцца ўсяго паўгадзіны.

ЯМ

## Апытанні на nn.by

**Як па-Вашаму, беларускае грамадства…**

| | | |
|---|---|---|
| выспявае | 124 | 11% |
| дэградуе | 320 | 27% |
| змагаецца за выжыванне | 300 | 26% |
| збірае сілы | 88 | 8% |
| грамадства няма | 339 | 29% |

Прагаласавалі 1171 чалавек

## Рэкамендуем

**Здароўе чалавека залежыць ад рэжыму харчавання яго бабулі**

Чытайце на NN.BY

## Самае чытанае на nn.by за 9—15 ліпеня

1 БелТА: Беларусы больш не будуць ездзіць у шопінг-туры ў Літву і Польшчу
2 Снайперка з Барысава: У мяне быў аўтамат Вася, а цяпер вінтоўка Крысціна
3 Кургінян і Губараў пра Стралкова — сварка лідараў баевікоў ужывую
4 Самая няшчасная краіна ў свеце — фотарэпартаж
5 На «Славянскім базары» здарыўся канфлікт з украінцамі з-за еўразвязаўскай стужкі — відэа
6 Беларуска, якую 4-гадовай дзяўчынкай прадалі цыганам, стала каралевай прыгажосці
7 Гісторыя жыцця міністаркі Лiлii Ананіч
8 Беларусы і сэкс: як гэта рабілі продкі
9 20 гадоў кіравання Лукашэнкі ў 20 здымках
10 Расійскія добраахвотнікі прыбываюць у «Наваросію» — відэа

# Гебельс бы пазайздросціў

**У нядзелю на «Першым канале» ў эфіры была расказаная гісторыя пра трохгадовага хлопчыка, сына апалчэнца ДНР, укрыжаванага ў Славянску на дошцы аб'яваў украінскімі вайскоўцамі.**

### Укрыжаванне на плошчы, якой няма

«Цэнтр горада. Плошча Леніна. Наш гарвыканкам — гэта адзіная плошча, куды можна сагнаць усіх людзей... Узялі дзіця трох гадоў, хлопчыка маленькага ў трусіках і футболцы, як Ісуса, на дошку аб'яваў прыбілі, — расказвала ў эфіры «Галіна Пышняк са Славянска, маці чатырох дзяцей, ураджэнка Заходняй Украіны». — Адзін прыбіваў, двое трымалі. І мама глядзела, як дзіця сыходзіць крывёй. І яшчэ ўзялі надрэзы зрабілі, каб дзіця мучылася... А потым, калі праз паўтары гадзіны дзіця сканала, узялі маму, прывязалі да танка і па плошчы тры кругі правялі...»

Плошчы Леніна ў Славянску няма. Гарвыканкам стаіць на плошчы Кастрычніцкай рэвалюцыі. Жыхары Славянска, як высветлілі пасля журналісты, пра дзікі выпадак не чулі, а на словы «Першы канал» рэагуюць мацерна. У акаўнце Галіны Пышняк (дзявочае прозвішча Астапенка) на mail.ru пазначана, што яна жыве не ў Славянску, а ў Данецку. Або, можа, у пасёлку Мікалаеўка? Такі адрас «Укантакце» яе мужа, Канстанціна Пышняка, які служыў у данецкім «Беркуце», а цяпер, можна меркаваць па фота, у шэрагах сепаратыстаў. А ў «Аднакласніках» інтэрнаўты знайшлі яшчэ Галіну Пышняк з Абухава Кіеўскай вобласці, вельмі падобную. Пасля рэпартажа, дарэчы, акаўнт знік. Адкуль бы ні была Галіна, яна не са Славянска.

### Аўтар сцэнарыя — Дугін

Гісторыю пра ўкрыжаванне за тры дні да з'яўлення сюжэта па ТВ апублікаваў у сваім Фэйсбуку Аляксандр Дугін. Філасофшавініст, якога называюць адным з ідэолагаў сённяшняй расійскай улады, выклаў яе ў форме маналога жанчыны, сяброўка якой «асабіста бачыла» расправу «ўкраінскіх карнікаў» у Славянску. Праўда, хлопчык быў шасцігадовы. Тамсама гаварылася пра тое, што ў Славянску расстрэльваюць усіх мужчынаў да 35 гадоў. Пры канцы — просьба распаўсюдзіць інфармацыю як мага шырэй і перакласці на замежныя мовы. «Хлусня, паўтораная тысячу разоў, робіцца праўдай», — казаў Гебельс.

Інтэрнаўты адразу ж знайшлі і крыніцу натхнення Дугіна: гісторыя пра ўкрыжаванне дзяцей ёсць у папулярным серыяле-фэнтэзі «Гульня прастолаў». Хоць, магчыма, карані сюжэта — у чарнасоценскай мане пачатку XX стагоддзя. Напрыклад, у жыцці шасцігадовага мучаніка Гаўрылы Беластоцкага, нібыта ўкрыжаванага яўрэямі ў рытуальных мэтах і канізаванага ў 1820-м. Такія гісторыі праваказвалі яўрэйскія пагромы ў Расійскай Імперыі. Шавіністы наўмысна пашыралі чуткі пра тое, што жыды п'юць кроў хрысціянскіх немаўлятаў ды распінаюць маладых дзяўчат.



Галіна Пышняк.




**Юлія Чумакова — аўтарка сюжэта пра ўкрыжаванне.**




**Дзмітрый Кісялёў.**

### Навальны: іх трэба судзіць

Лідар расійскай апазіцыі Аляксей Навальны назваў журналістаў, якія выдумалі сюжэт пра ўкрыжаванне, «чокнутымі вычварэнцамі» і заклікаў іх судзіць. «Людзі, якія падобнае ладзяць, — небяспечныя для грамадства, і тое, што яны робяць, — крымінальнае злачынства», — заявіў Навальны.

Галіну Пышняк знайшла растоўская журналістка «Першага канала» Юлія Чумакова. Кідаецца ў вочы яе дзіўная «незацікаўленасць»: зладзейства такога маштабу вымагае поўнага раскрыцця — з імёнамі і адрасамі ахвяраў і катаў, падрабязнымі аповедамі сведкаў. Журналістка ж толькі спачувальна ківае Галіне Пышняк ды пытаецца, ці не страшна ёй.

Таксама падчас інтэрв'ю Пышняк падкрэслівае, што «рускія не ваююць, рускіх няма, гэта рабацягі-шахцёры паўсталі», хоць абаронай Славянска кіраваў грамадзянін РФ і былы супрацоўнік ФСБ Гіркін.

«Трэба не вайной ісці, а дамаўляцца», — кажа Пышняк. Словы пра «перамовы» гучаць рэгулярна з тае пары, як антытэрарыстычныя сілы пачалі наступ на ўсходзе Украіны.

### Новы хіт Кісялёва

Сваім сюжэтам Чумакова забрала лаўры ў самага адыёзнага расійскага прапагандыста часоў украінскай вайны Дзмітрыя Кісялёва. Звычайна самую абсурдную ману агучвае менавіта ён. Але ў параўнанні з укрыжаваннем трохгадовага нават яго апошні сюжэт глядзіцца досыць блякла.

У сваёй праграме «Весткі тыдня з Дзмітрыем Кісялёвым» на тэлеканале «Расія 24» ён расказаў пра тое, што ўкраінскія вайскоўцы нібыта пастаўляюць у Германію чалавечыя органы. Займаецца гэтым, паводле Кісялёва, Сяргей Уласенка, былы адвакат Юліі Цімашэнкі. Ён прадае органы нямецкаму доктару Вользе Вібер «у абмен на матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне». А пастаўляе органы камандзір добраахвотніцкага батальёна «Данбас» Сямён Семенчанка, выразаючы іх, ясная справа, у яшчэ жывых апалчэнцаў ДНР і мірнага насельніцтва.

### «Не прысылайце алкаголікаў»

«Цяпер, па версіі тэлеканала «Расія», у мяне ёсць бізнэс, — іранізуе Сяменчанка ў Фэйсбуку. — Карыстаючыся выпадкам, хачу папрасіць улады РФ не прысылаць у якасці тэрарыстаў алкаголікаў з РФ. На іх пячонкі падаюць цэны».

Вольга Вібер — рэальная жыхарка Германіі, уся інфармацыя пра яе, агучаная Кісялёвым, была ўзятая з інтэрнэту. «Я не доктар, я не ведаю Уласенкі і Сяменчанкі. І наогул, сам тэкст — «замова на 15 сэрцаў, 63 ныркі» і да т.п. — гэта поўная бязглуздзіца. Гэта ж не мясная крама», — кажа Вольга.

Нямецкі журналіст Хорст Клойзер зрабіў радыёперадачу, у якой пагаварыў з Вольгай Вібер і звярнуўся ў федэральнае Міністэрства аховы здароўя Германіі, а таксама ў Нямецкі фонд трансплантацый органаў. Там яму пацвердзілі, што няма ніякіх прыкмет, якія б паказвалі на тое, што такі нелегальны гандаль мог мець месца.

### «Кінуўся пад танк» праз тры гады пасля смерці

Мана паўтараецца тысячакроць. «Шакуючыя» навіны з Украіны множацца. Сайт stopfake.com, створаны, каб абвяргаць хлусню расійскіх СМІ, абнаўляецца амаль штодня. Ёсць і фэйкі, скіраваныя не на ачарненне ўкраінскай дзяржавы, а на гераізацыю прарасійскіх сепаратыстаў. Даходзіць да анекдатычных канфузаў, накшталт апісаных Вайновічам у аповесці пра салдата Чонкіна.

Напрыклад, гісторыя пра Аляксандра Скрабіна з Луганска, які, абвязаўшыся гранатамі, нібыта кінуўся пад украінскі танк, каб выратаваць таварышаў. Яе распаўсюдзіў верхавод славянскіх тэрарыстаў Ігар Гіркін-Стралок, а працытавалі ўсе вядучыя расійскія СМІ: «Комсомольская правда», «Інтэрфакс», «Весті». Было і фота героя. Праўда, хутка выявілася, што чалавек на фота, сапраўды, Аляксандр Скрабін з Луганшчыны, памёр яшчэ ў 2011. У яго акаўнце на «Аднакласніках» ёсць спачуванні ад сяброў, датаваныя тым часам.

Калі гэта ўсплыло, інтэрнэт-прапагандысты не здаліся і апублікавалі фота пахавальнай працэсіі з «труной Скрабіна на фоне роднай шахты». Але і тут канфуз: на сайце адміністрацыі Луганскай вобласці знайшоўся арыгінал здымка. Ён ілюстраваў паведамленне 2011 года пра гібель шахцёраў на шахце «Сухадольская-Усходняя».

Чаму, можна спытацца, прапагандысты так неахайна рыхтуюцца? З іх сюжэтаў «тырчаць белыя ніткі» там і сям. І на гэта пытанне даваў адказ Гебельс. «Мы дабіваемся не праўды, а эфекту, — казаў ён. — І ўдарыць трэба так, каб ашмёткі паляцелі». Бо сто чалавек праверыць інфармацыю, а дзясяткі тысяч — проста павераць у нечалавечую хлусню. Асабліва, калі яе паўтараць усе «вартыя даверу» «салідныя» «тыражныя» СМІ. Як там у Гебельса? «Дайце мне сродкі масавай інфармацыі і я з любога народа зраблю статак свіней».

**Сяргей Мікулевіч**

**Ёзэф Гебельс**

(1897—1945) рэйхсміністр народнай асветы і прапаганды нацысцкай Германіі (1933—1945). Меў неабмежаваны кантроль над усімі сферамі культурнага жыцця немцаў — у першую чаргу кіно і радыё. У сваіх прамовах, перакручваючы факты, апраўдваў злачынствы нацыстаў. 30 красавіка 1945, пасля самагубства Гітлера, стаў кіраўніком Нямеччыны. Спрабаваў заключыць перамір'е са Сталіным. Атрымаўшы адмову, 1 мая атруціўся з усёй сям'ёй (жонка і шасцёра дзяцей) у бункеры Гітлера. Целы былі пахаваныя на тэрыторыі савецкага вайсковага гарадка. Перад перадачай яго Германіі ў 1970 іх адкапалі і спалілі, а попел развеялі.



**Пуцін: Гебельс — таленавіты чалавек**

Уладзімір Пуцін на сустрэчы з прадстаўнікамі міжнародных грамадскіх і рэлігійных арганізацый назваў Гебельса «таленавітым чалавекам». Разважаючы пра «фальсіфікацыю гісторыі» (маецца на ўвазе адрозны ад афіцыйнага расійскага погляд на Другую сусветную вайну), Пуцін працытаваў Гебельса: «Чым неверагоднейшая хлусня, тым хутчэй у яе павераць». А следам Гебельса і пахваліў: «Ён дабіваўся свайго, ён быў таленавіты чалавек».

# Твары «ДНР» і «ЛНР»

## Хто **стаіць за бясчынствамі** на ўсходзе Украіны?

На мінулым тыдні ў «НН» прыйшоў наступны ліст: «Шаноўная Рэдакцыя! Зрабіце артыкул, у якім размясціце фоты прадстаўнікоў кіраўнічых колаў «ДНР» і «ЛНР», каб людзі пабачылі іхныя твары», — напісаў чытач Ілля Параскевіч.

Сапраўды, цікава, што за людзі «змагаюцца за незалежнасць» украінскіх абласцей? Ужо некалькі месяцаў іх не могуць вытурыць з занятых месцаў ды вызваліць тэрыторыю. Калі крыху капнуць біяграфіі дзеячаў, то бачна, што амаль усе яны — з Расіі. Гэта разбурае міф, што змагаюцца самі ўкраінцы.

**Зміцер Панкавец**




У мінулую пятніцу ў Данецку прайшло вяселле «палявога камандзіра» **Арсена Паўлава** (мянушка — **Матарола**) з дзяўчынай Аленай. Важным атрыбутам строяў маладых была зброя. Матарола — 30-гадовы ўраджэнец Рэспублікі Комі Расіі. Служыў у марской пяхоце, браў удзел у антытэрарыстычных аперацыях у Чачні. За абарону Славянска ўзнагароджаны «Георгіеўскім крыжам ДНР». У інтэрнэце жартавалі, што гэта нагадвала сцэну з фільма «Вяселле ў Малінаўцы». Хай бы і ажаніўся, але на радзіме ў яго ўжо ёсць жонка і дзіця.



**Аляксандр Мажаеў**, ці, як яго часцей называюць, **Казак Бабай**. Гэта не стары дзед, Мажаеву ўсяго 36 гадоў. Проста імідж такі. Ён родам з Расіі, з Краснадарскага края, актыўны ўдзельнік казацкага руху. У Расіі знаходзіцца ў федэральным вышуку за спробу забойства, што і было галоўнай прычынай паехаць спачатку ў Крым, а пасля — на ўсход Украіны. Па некаторых звестках, Мажаеў браў удзел ва ўзброеным канфлікце ў Грузіі ў 2008 годзе. У пачатку ліпеня, калі ўкраінцы ўдарылі па Славянску, Казак Бабай дэзерціраваў і цяпер недзе хаваецца.



**Ігар Безлер («Бес )** — падпалкоўнік расійскай арміі ў адстаўцы. Удзельнічаў у афганскай вайне. Некалькі гадоў таму ён быў звольнены ў запас. Прынамсі, была легенда, што звольніўся. Пераехаў жыць у Горлаўку, валодаў прадпрыемствам рытуальных паслуг. Менавіта група на чале з Безлерам здзейсніла напад на калону ўкраінскіх вайскоўцаў пад Валнавахай, дзе загінула 16 чалавек. Ён быў сярод арганізатараў забойства дэпутата Горлаўскай мясцовай рады Рыбака, якому ўспаролі жывот і жывым патапілі. Спрабаваў захапіць уладу ў Данецку, але стуль яго выбілі.



**Сяргей Здрылюк** — намеснік камандуючага ўзброеных сілаў «ДНР». Мянушка — Абвер. Адзін з нешматлікіх украінцаў сярод лідараў баевікоў. Усё свядомае жыццё пражыў у Крыме і жанаты з рускай жанчынай. Афіцэр вайсковай выведкі СБУ ў адстаўцы.



**Ігар Стралкоў-Гіркін** — міністр абароны «ДНР». Нарадзіўся ў Маскве, праходзіў службу ва ўзброеных сілах Расіі. Пісалі, што ён палкоўнік ГРУ, сам ён сцвярджае, што служыў у ФСБ. Ягонае хобі — вайсковая рэканструкцыя і гісторыя Белага руху — вадзіла яго ў шматлікія падарожжы. Ваяваў у Прыднястроўі, Босніі і Чачні. Па інфармацыі Бі-бі-сі, апошнім месцам працы Гіркіна было ўпраўленне па барацьбе з міжнародным тэрарызмам ФСБ.



**Аляксандр Барадай** — прэм'ер-міністр «ДНР». Расійскі палітолаг і журналіст, які працаваў разам са Стралковым у Дагестане і Чачні ў 1999, што можа быць аргументам ягонай прыналежнасці да ФСБ таксама.



**Павел Губараў** — «народны губернатар Данецкай вобласці», кіраўнік «Народнага апалчэння Данбаса». Родам з Севераданецка, быў актыўным удзельніка неафашысцкай арганізацыі «Рускае нацыянальнае адзінства». Быў арыштаваны ўкраінскімі спецслужбамі, але ў выніку абменены на палонных супрацоўнікаў СБУ. У палітычных поглядах называе сябе прыхільнікам Уладзіміра Пуціна, а таксама палітычных ладаў Беларусі, Венесуэлы і царскай Расіі.



**Валерый Болатаў** — кіраўнік «ЛНР». Браў удзел у баявых дзеяннях у «гарачых кропках» — Тбілісі, Ерэван, Нагорны Карабах. Паводле звестак Службы бяспекі Украіны, Болатаў увайшоў у склад сфармаванай ФСБ і ГРУ дыверсійнай групы, перад якой «ставіліся задачы збору разведвальнай інфармацыі аб размяшчэнні і перадыслакацыі ўкраінскіх вайсковых частак, радыёлакацыйных станцый, арганізацыя тэрактаў, блакіроўкі ваенных калон».

«Наша Ніва» знайшла **малдаўскага паліцэйскага**, які выцягнуў дзяўчыну «з таго свету».

# Беларуска, якую 4-гадовай дзяўчынкай прадалі цыганам, стала каралевай прыгажосці і адшукала свае карані

Дзяўчына гадавалася ў нешчаслівай сям'і, дзе злоўжывалі алкаголем, а ў чатырохгадовым узросце яна знікла. Адшукалі Вольгу толькі цяпер.

**Падарожжа ў адзін канец**

Як высветлілася, усе апошнія 17 гадоў Вольга жыла ў малдаўскім горадзе Сарокі на мяжы з Украінай. Выхоўвалася яна ў цыганскай сям'і, якая купіла Вольгу ў выкрадальнікаў Ларысы і Васіля, таксама цыганоў.

З Васілём і Ларысай маці Вольгі Тамара Рамановіч пазнаёмілася ў Мінску. Тыя ўгаварылі яе паехаць разам з дзіцём у Малдову. Маўляў, горш там не будзе. У Малдове Тамара пэўны час папрашайнічала. А аднойчы Ларыса і Васіль звезлі Вольгу ў невядомым кірунку. Тамары яны сказалі, што аддалі дзяўчо ў добрую сям'ю.

**«Не руская, не цыганка»**

4-гадовую дзяўчынку Ларыса і Васіль завезлі ў горад Сарокі. Там Вольгу купіла цыганка Віаара, у якой быў сын, але не было дачкі. Віаара назвала сваю новую «дачку» Марыяй і дала сваё прозвішча Прэйда.

17 гадоў Марыя Прэйда жыла сярод ромаў згодна з іх звычаямі, размаўляла на цыганскай мове. У відэаінтэрв'ю, зробленым супрацоўнікамі беларускага МУС пасля вяртання Вольгі ў Мінск, яна кажа, што не мае прэтэнзій да сваёй цыганскай выхавацелькі, якую кліча «бабуляй», але заўсёды хацела даведацца пра сваё паходжанне, бо «ў цыган я была рускай, а ў рускіх — цыганкай»: «Мяне вельмі любілі ў той сям'і, выхавалі, як змаглі, як сваю! Але гэта пачуццё, калі разумееш, што гэта не тваё, ты сярод іх не такая, як усе, ты іншая! Так, ты жывеш па іх звычаях, размаўляеш, робіш. Але заўсёды перада мной адно пытанне стаяла: «Хто я такая? Адкуль я родам? Як я з'явілася тут?» Мяне гэтыя пытанні заўсёды мучылі і мучаць. Я хацела ведаць, якой бы ні была праўда, кім бы мае бацькі ні аказалася, нават калі яны мяне прадалі».





Калі маці Вольгі напісала заяву ў міліцыю, яе там адмовіліся прымаць

**Знайшлася выпадкова**

Вольга прызалася, што нават напісала на «Першы расійскі канал», у тэлеперадачу «Чакай мяне». Аднак там ёй адмовілі ў дапамозе: Вольга занадта мала памятала аб сваім дзяцінстве. Магчыма, Вольга так і не даведалася б пра сябе нічога, але ёй літаральна дапамагло няшчасце.

Вольга пацярпела ад аднаго цыгана. Але на судзе цыганская грамада стала на яго бок, бо ён, у адрозненне ад Вольгі, выглядаў як «свой». Вольга была ў глыбокай дэпрэсіі і хацела скончыць жыццё самагубствам. Дзяўчына наведвала службу псіхалагічнай дапамогі, дзе і расказала пра сваё выкраданне.




Інспектар паліцыі Віктра Рагажынэ.

Гэтая інфармацыя дайшла да старшыні Інспектарата паліцыі Сарокаў Віктара Рагажынэ, які падзяліўся акалічнасцямі справы з «НН»: «Я сустрэўся і пагутарыў з Вольгай. Яна тады назвалася Марыяй. «Бабуля» перад смерцю расказала ёй, што нібыта яе скралі ў Каўнасе. Таму адразу мы пачалі правяраць «балтыйскую» версію па лініі Інтэрпала. Аднак, вядома ж, нічога не знайшлі.

Марыя таксама ўзгадала, што яе сапраўднае імя зусім не Марыя, а Вольга. Ёй было 4 гады, калі яна трапіла да цыганоў, і сваё імя яна ўжо памятала».

**Дзесяць гадоў ніхто не шукаў**

Валеры Рагажынэ кажа, што адзін з яго супрацоўнікаў абсалютна выпадкова ўбачыў інтэрпалаўскую картку з Мінска:«Паводле арыенціроўкі расшуквалася Вольга Рамановіч, якая знікла ў 1997 годзе. Я звязаўся з начальнікам галоўнага ўпраўлення крымінальнага вышуку крымінальнай міліцыі МУС Беларусі Уладзімірам Захарчуком, зрабіў запыт аб справе Рамановіч.

У Вольгі быў фотаздымак, зроблены праз два месяцы пасля яе прыбыцця ў Малдову. Фотаздымак перадалі беларускім калегам, і родная цётка Вольгі пазнала яе. Тады я асабіста звазіў Вольгу ў Мінск, дзе зрабілі генетычную экспертызу. Тэст ДНК пацвердзіў, што яна — гэта яна».

Нягледзячы на шчаслівы фінал, Рагажынэ абураецца дзеяннямі беларускай міліцыі ў 1997 годзе: «Цяпер ваша міністэрства спрацавала добра. Але ўявіце сабе, што дзесяць гадоў дзяўчынку ніхто не шукаў! Калі маці Вольгі Тамара вярнулася ў Беларусь, яна напісала заяву ў міліцыю. Але там яе адмовіліся прымаць!

Затым, наколькі мне вядома, Тамара нарадзіла двух сыноў. Потым яшчэ аднаго, якога пакінула ў раддоме. Гэтага трэцяга сына ўсынавіла нейкая сям'я, здаецца, дастаткова заможная. Пасля яны ўсынавілі і двух старэйшых сыноў, бо Тамару на той час ужо пазбавілі бацькоўскіх правоў. Ад іх у 2007 годзе, то бок праз дзесяць гадоў, і даведаліся аб існаванні яшчэ аднаго дзіцяці. Мабыць, яны хацелі ўзяць і дзяўчынку, але аказалася, што яна знікла ў 1997-м.

Тады прыёмныя бацькі Вольжыных братоў паставілі міліцыю на вушы, прымусілі прыняць заяву аб знікненні чалавека, абвесціць Вольгу ў вышук праз Інтэрпал. Але ведаеце, ад беларускага боку з 2007 па 2014 год аб Вользе паступіў усяго адзін запыт».

**«Не дадуць кватэру — забяром назад»**

Цяпер Вольга знаходзіцца ў Мінску. Зняць кватэру і купляць прадукты ёй дапамагае Беларускае таварыства чырвонага крыжа. Вольга не хоча размаўляць з журналістамі, бо ў яе ўсе ўжо «тыкаюць пальцамі». Што Вольга збіраецца рабіць далей, пакуль невядома.

У інтэрв'ю МУС яна казала, што хацела б вучыцца: «Я спадзяюся, што цяпер уладкуюся, буду вучыцца таму, што мне падабаецца. Бо тут я вучылася, проста каб вучыцца. Я хацела б стаць доктарам. Але не было ўмоў, бо цыган не вучаць, не пускаюць вучыцца. Бабуля казала: «Не трэба вучыцца, ідзі гандлюй лепш!» Я да яе прыслухалася. А каго мне было слухаць?»

Вольга ўзгадала, што лепшым момантам яе жыцця была перамога ў конкурсе «Міс Сарокі» ў гэтым годзе. Мясцовы тэлеканал у рэпартажы аб конкурсе назваў пераможцу «цыганкай».

Аднак Рагажынэ незадаволены падобнымі дзеяннямі беларускіх калег: «Я прасіў, каб не было ніякіх інтэрв'ю. Бо дзяўчыне цяпер цяжка. У дадзены момант галоўнае, каб ваш прэзідэнт даў ёй кватэру, каб было дзе жыць. У яе цёткі свая сям'я, ёй не да Вольгі цяпер. Калі ў Вольгі не будзе жылля, мы забяром яе назад у Малдову, уладкуем тут. Бо гэта ж цуд! Такіх людзей, як Вольга, удаецца расшукаць мо аднойчы ў сто гадоў».

Кірыла Хілько

**Апытанне на nn.by**

**Як Вы ставіцеся да цыганоў?**

| | | |
|---|---|---|
| Добра | 33 | 3% |
| Нейтральна | 153 | 12% |
| Кепска | 438 | 35% |
| Залежыць ад чалавека, як і з іншымі народамі | 407 | 33% |
| Яны інакшыя, жывуць інакшым законам, таму пабойваюся | 209 | 17% |

Усяго прагаласавала 1240 чалавек.

# Самыя дарагія кватэры купляюць у «Славянскім квартале» і доме Чыжа

Цэны даходзяць да **$615 тысяч**.

За другі квартал 2014 года гучных купляў на беларускім рынку нерухомасці не было. Попытам перадусім карыстаюцца танныя кватэры.

Паводле дадзеных Нацыянальнага кадастравага агенцтва, агулам за тры месяцы было прададзена 10065 кватэр. Гэта на 15% менш, чым летась за аналагічны перыяд.

Самая дарагая з кватэр каштавала $615 тысяч. За такія грошы была набытая сталічная чатырохпакаёўка ў «Славянскім квартале» — гэта жыллёвы комплекс насупраць новага музея Вялікай Айчыннай вайны. За кожны квадратны метр кватэры давялося заплаціць $4200.

Сярод рублёвых купляў першае месца заняла кватэра ў «доме Чыжа», $580 тысяч у эквіваленце. Таксама чатырохпакаёўка, але большай плошчы. Гаспадаром стаў дырэктар адной з лізінгавых кампаній, квадратны метр каштаваў яму $2830.

А вось самым дарагім прададзеным домам стаў катэдж у Драздах. За двухпавярховік агульнай плошчай 563 м² арабскі стаматолаг заплаціў $650 тысяч у эквіваленце — нямнога, бо за падобныя суседнія дамы просяць удвая, а то і ўтрая больш.

**Ягор Марціновіч**

**Самыя дарагія кватэры ў рэгіёнах**

**Брэстчына**

Два гады таму на вуліцы Карла Маркса ў Брэсце разабралі два будынкі, якія былі занесеныя ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў. Кампанія «Будаўнічы рай» (назва па-расейску) адсяліла ранейшых жыхароў, а цяпер распрадае кватэры ў рэканструяваных дамах. Найдаражэйшая, трохпакаёўка плошчай пад 150 м², каштавала каля $170 тысяч.

**Віцебшчына**

Кватэры ў абласным цэнтры прадавалі па нізкай цане, таму ў лідарах апынулася нерухомасць у Оршы. За трохпакаёўку ў цагляным шматпавярховіку праз дарогу ад лядовага палаца пакупніца з Расіі аддала $97 тысяч.

**Гомельшчына**

Па аднолькавай цане — $100 тысяч — былі набытыя трохпакаёўка на праспекце Леніна і чатырохпакаёўка на вуліцы Тэльмана. Квадратны метр у другой з кватэр каштаваў $1000. Для Мінска гэта смешныя лічбы, але для абласнога цэнтра — сярэднія.

**Гродзеншчына**

Падобны ўзровень цэнаў і ў Гродне. За $101 тысячу расеец набыў трохпакаёўку ў панэльцы на праспекце Янкі Купалы.

**Міншчына**

У прыгарадах сталіцы цэны на кватэры даходзяць да $200 тысяч. Пасёлак Сонечны знаходзіцца за некалькі кіламетраў ад МКАД, але фармальна належыць да Мінскай вобласці. За трохпакаёвую кватэру з трыма туалетамі гаспадары аддалі $207 тысяч. Аднак за кошт вялікай плошчы квадратны метр аказваецца не такім ужо і дарагім — $1370. Па падобнай цане былі прададзеныя яшчэ некалькі кватэр у Сонечным, а таксама ў Копішчы. Гэта вёска пад Мінскам.

**Магілёўшчына**

$120 тысяч — столькі заплаціў новы гаспадар чатырохпакаёўкі на бульвары Леніна ў Магілёве. Зрэшты, жыллё ў наменклатурным доме, пабудаваным ў сярэдзіне XX стагоддзя, не можа каштаваць мала.


«Славянскі квартал».
СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Украіна выпускае хуткасныя цягнікі…

Украінскія хуткасныя цягнікі з часам могуць змяніць расклад сіл на міжнародным транспартным рынку.

З Кіева ў Львоў і Адэсу цяпер ездзяць электрацягнікі «Тарпаны». Гэта аналаг паўднёвакарэйскага «Хюндая», вось толькі каштуюць дзяржаве ўдвая танней — $14 мільёнаў.

У дзевяці вагонах прадугледжаны 609 месцаў, цягнік можа разганяцца да 160 км/г.

Новыя хуткасныя саставы выраблены на Крукаўскім вагонабудаўнічым заводзе ў горадзе Крамянчуг Палтаўскай вобласці.

Раней ва Украіне ніша хуткасных цягнікоў была занятая «Хюндаямі», іх куплю лабіравалі паплечнікі Віктара Януковіча.





## …а расейцы прыдумалі футурыстычны трамвай

На заводзе «Уралтрансмаш» у Екацярынбургу прэзентавалі трамвай R1 («Расія-1»)

Ён выклікаў цікавасць перадусім дзякуючы свайму арыгінальнаму выгляду. Чорны колер трамвая і ягоныя футурыстычныя формы спадабаліся дызайнерам, аднак эксперты-транспартнікі раскрытыкавалі R1. Пры наездзе на чалавека ці аўто востры «нос» трамвая зацягне іх пад дно. Ёсць пытанні і да функцыянальнасці. Двухсекцыйны трамвай мае ўсяго 28 месцаў за кошт дзіўных канапаў. А побач з імі паставяць шырачэзныя крэслы.

Затое ў салоне ўсталяваныя кандыцыянеры і камеры відэафіксацыі, а поручні зробленыя з антыбактэрыяльным пакрыццём.

Серыйная вытворчасць яшчэ не пачалася, аднак змены ў мадэлі абяцаюць мінімальныя. Кошт трамвая будзе складаць каля 1 мільёна еўра.







**Фотафакт**

Расійская кампанія «Газпром» пачынае падрыхтоўчыя працы на будаўніцтва беларускага галоўнага офіса. Гэта будзе хмарачос вышынёй больш за 180 метраў. Вакол пабудуюць яшчэ пяць ніжэйшых будынкаў для офісаў і гатэляў. Для іх узвядзення будзе зруйнаваны аўтавакзал «Маскоўскі». Будаўніцтва плануецца скончыць да 2018 года. Тады ж будзе адкрытая і двухузроўневая развязка на рагу праспекта Незалежнасці і вуліцы Філімонава. Яе стваранне аплаціць «Газпром».

**Сцісла**

**Ермакова абяцае працяг дэвальвацыі**

Нацбанк плануе і надалей праводзіць палітыку плаўнай дэвальвацыі, заявіла яго старшыня Надзея Ермакова. Яна прагназуе, што курс даляра да канца года дасягне 10700—10800 рублёў. Гэта азначае, што дэвальвацыя складзе яшчэ каля 5%.

**У Віцебску адкрыўся «МакДональдс»**

Сусветна вядомая сетка фаст-фуду прыйшла ў рэгіёны. Цэны будуць такія ж, як і ў сталіцы. Рэстаран стаў восьмым у беларускай сетцы, папярэднія сем адкрываліся ў Мінску.

**$100 мільёнаў на дабудову**

Расійскі «Сбербанк» пазычыць $104 мільёны на будаўніцтва забаўляльнага комплекса на праспекце Пераможцаў у Мінску. Будоўля ідзе на месцы знесенага інтэрната БДУ. Замест яго плануецца адкрыць гандлёвы цэнтр, 20-павярховы гатэль «Хілтан» і паркінг на 1020 аўто.

**Платных дарог паболее**

З 1 жніўня агульная працягласць сеткі платных дарог перавысіць 1000 км. Грошы з грузавікоў, а таксама легкавікоў з транзітнымі і замежнымі нумарамі будуць збіраць на трасах Мінск–Дзяржынск, Мінск–Ашмяны, а таксама на новых участках дарог з Мінска ў Гомель і Гродна.

**Бензін падаражэў, але не дагнаў Расію**

У Беларусі сёлета ўпершыню падаражэў бензін. «У мэтах паэтапнага збліжэння цэн на нафтапрадукты з Расіяй», — патлумачыў адну з прычын «Белнафтахім». Бензін АІ-92 цяпер каштуе 9 300 рублёў, АІ-95 — 10 000 рублёў, дызпаліва — 10 100 рублёў. Цяпер цэны выйшлі на адзін узровень, напрыклад, са смаленскімі, але ўсё адно адстаюць ад маскоўскіх.

**ЯМ**

# Беларускія альпіністы разбіліся на камчацкім вулкане

**Група турыстаў з Мінска і Магілёва штурмавала расійскія горы.**

Васьмёра чалавек адправіліся на Камчатку 2 ліпеня. Планавалі гэтую паездку задоўга да лета. Абдумвалі, складалі маршрут. Каля 20 дзён збіраліся вандраваць па гарах і гейзерах Камчаткі. Але на сярэдзіне шляху здарылася трагедыя: падчас узыходжання на вулкан Камень загінулі кіраўнік групы Сяргей Франкоўскі і турыст Андрэй Крупадзёраў.

Беларусы адпачывалі ў раёне Ключаўской групы вулканаў. Раніцай 9 ліпеня Сяргей і Андрэй удвух пайшлі скарыць Камень — іншыя не адчувалі ў сабе сілы. Пад'ём заняў бы 9—10 гадзін. Але там, наверсе, нешта пайшло не так. Мужчын чакалі да вечара і пачалі шукаць. Калі зразумелі, што самі не дадуць рады, адправіліся ўніз па дапамогу. На гэта спатрэбіліся яшчэ суткі. І толькі 11 ліпеня пачаліся пошукі. А праз тры дні на вулкане Камень беларусаў знайшлі нежывымі. Яны былі на вышыні 3400 метраў над узроўнем мора. Альпіністы былі звязаныя паміж сабой. Як мяркуецца, адзін з іх сарваўся з ледавіка і пацягнуў за сабой напарніка. Абодва разбіліся. Вядома, што ў Сяргея Франкоўскага засталіся жонка і сын. Яму было 37 гадоў.

**Камень** — патухлы вулкан на Камчацкім паўвостраве. Знаходзіцца на вышыні 4585 метраў над морам. Другі па вышыні вулкан на Камчатцы. У яго стромкія схілы, паверхня — сыпкая. Узыходжанне на яго з'яўляецца выключна альпінісцкай справай.




Прыгажосць вулкана Камень заварожвае.




Сяргей Франкоўскі.

«Гадоў пяць таму я пазнаёміўся з Сяргеем. Хадзілі разам у мноства паходаў, сябравалі сем'ямі. Андрэя я не ведаю — ён быў упершыню ў нашым коле. Сяргей сам збіраў групу. Хацеў яшчэ летась на Камчатку адправіцца, але не сабралася група з прафесіяналаў. І адклаў на гэты год, — расказвае сябар загінулага Аляксандр Смірноў. — Ён па адукацыі кібернетык, займаўся праграмаваннем і адміністраваннем. У яго застаўся сын Максім, гадоў 15—16... Сяргей часам арганізоўваў нескладаныя паходы для дзяцей, дык браў сына з сабой. Жонка Таццяна заўжды з ім была побач у паходах. Як і ў гэты раз: толькі не пайшла з ім на вулкан, а чакала ўнізе.

Калі мы пазнаёміліся, Сяргей ужо быў альпіністам. І мяне заахвоціў на гэты занятак. У Магілёве ён лічыўся нефармальным лідарам альпінісцкага руху».

Аляксандр кажа, што сябар доўга ішоў да гэтай вандроўкі. «Гэты рэгіён прыцягваў прыроднай прыгажосцю, недасяжнасцю для людзей. Можна было проста глядзець на прыроду і праводзіць узыходжанні, для альпіністаў там мноства маршрутаў. А вулкан Камень — разынка маршруту».

У панядзелак, 14 ліпеня, турыстычная група з беларусаў здолела сама спусціцца з гор. Яны знаходзяцца ў Петрапаўлаўску-Камчацкім. Праз кепскае надвор'е целы Сяргея і Андрэя не маглі спусціць з гор. Цяпер будзе ісці няхуткі працэс вяртання іх на радзіму.

**Сяргей Макарэвіч**

# Опій у шкарпэтках

**Іранец атрымаў від на жыхарства ў Беларусі, а цяпер можа «прапісацца» ў беларускай турме.**

Былы супрацоўнік пасольства Ірана ў Мінску папаўся на наркотыках. Яго судзяць за іх кантрабанду і незаконны абарот. У выпадку прызнання віны яму пагражае суровае пакаранне — да 13 гадоў калоніі.

Як склалася жыццё 39-гадовага Фархата Махамаднежада на радзіме, не ясна. А вось у Беларусі ён вырашыў, відаць, атабарыцца надоўга. Ажаніўся з беларускай, якая нарадзіла яму дачку. Атрымаў від на жыхарства. Праўда, сямейныя адносіны не заладзіліся. Цяпер жонка, з якой хоць і не жывуць разам каторы год, але так і не развяліся, дае паказанні на мужа. Людміла праходзіць на судзе сведкай.

«Пазнаёміліся ў 2008-м. Пачалі сустракацца. Распісаліся праз год. А ў 2010-м у нас нарадзілася дзяўчынка. Адносіны не скláліся, і праз год я сышла. Падала на аліменты. Ён раз на месяц прыязджаў і прывозіў грошы. Шлюб не скасавалі, але я хачу развесціся. Ён працаваў, як расказваў, у пасольстве Ірана — вечарам ахоўваў, а днём быў кіроўцам. Я яго практычна не бачыла. Прыходзіў пераапрануцца і зноў сыходзіў», — расказвае Людміла.

Затрымалі ж яго 8 сакавіка 2014. Ён акурат прыляцеў з Ірана. Аператыўнікі яго «вялі» нейкі час. Арыштавалі на кватэры, дзе здымаў пакой. Гаспадыня Таццяна таксама праходзіць на судзе сведкай. Праўда, з часам сталі сужыцелямі.

«Я дапамагла яму распакаваць сумку. Там былі адзенне, салодкае, прыправа... Ці былі лекі нейкія? Вось гэта я не памятаю». Селі піць чай. І ў гэты момант у кватэру ўварваўся спецназ. «Праз акно — у нас першы паверх, праз дзверы — яны ў нас драўляныя. Зламалі. Фархат зрэагаваў апошнім на гэтыя гукі. Выйшаў — не бег, яго яны не спалохалі. Можна сказаць, затарможаны быў [яшчэ ў самалёце выпіў таблеткі з псіхатропамі]. Мяне допытвалі. Адзін з аператыўнікаў спрабаваў мяне справакаваць: «Як цябе завуць? Калі і колькі ты сёння ўжыла?» А я нават не куру», — прыгадвае Таццяна.

Паводле пракурора Бароўскага, Махамаднежад прывёз у Беларусь забароненыя рэчывы з мэтай збыту: 144 грамы опія і 3114 таблетак трамадолу (трохі больш за 1 кг). Опій ён правёз у шкарпэтках, таблеткі — у сумцы.

**Што да чаго?**

Опій — высушаны малочны сок, які атрымліваюць з недаспелых макавых галовак. Сок уяўляе з сябе сумесь раслінных алкалоідаў з высокім утрыманнем марфіну. Опій — сыравіна для вырабу наркатычных сродкаў.

Трамадол — сінтэтычны апіоідны анальгетык. Гэта моцны абязбольваючы сродак. Ён актывуе ў чалавека апіоідныя рэцэптары і выклікае эфект, падобны да наркатычнага: эйфарыя, маруднасць, санлівасць. Выклікае залежнасць. У Беларусі трамадол унесены ў пералік псіхатропных рэчываў.



«Не прызнаю віны, — заявіў Махамаднежад на судзе. — Таблетка — гэта не небяспечная рэч, а абязбольваючае». Пра опій, праўда, змаўчаў. Ён валодае расійскай, але не ўсё разумее: дапамагае перакладчык.

Супрацоўніца мытні аэрапорта, якая ў той дзень афармляла рэйс з Тэгерана, патлумачыла, што пры пэўных умовах наркотыкі і псіхатропы можна правозіць у Беларусь. На такія рэчывы павінны быць выпісаны адмысловыя рэцэпты. А колькасць прэпаратаў не павінна перавышаць 3-сутакавую дозу наркатычных і 90-дзённую дозу псіхатропных рэчываў. Але абавязкова мусяць дэкларавацца пры ўвозе ў Беларусь. 8 сакавіка такую дэкларацыю не падавалі.

Адвакат іранца спрабаваў давесці, што чалавеку, які не валодае расійскай ці англійскай мовамі дасканала, немагчыма са стэндаў у аэрапорце даведацца пра рэчы, якія падлягаюць дэклараванню. Магчыма, у гэтым ёсць рацыя. Але калі ён у шкарпэтках хаваў опій, відаць, усведамляў сваё злачынства.

Фархат Махамаднежад яшчэ не даваў паказанні — будзе рабіць гэта толькі пасля ўсіх сведкаў. А пакуль у працэсе суддзя Пратасавіцкая аб'явіла перапынак.

**Сяргей Макарэвіч**

## Вышук



**Прадавец посуду**

Грамадзянін Расіі (на фота) падазраецца ў разбойным нападзе на пенсіянерку ў Мінску. Пад выглядам прадаўца посуду ён прыйшоў да яе на кватэру, дзе напаў і скраў 30 мільёнаў рублёў. Мужчына затрыманы. Калі вы пацярпелі ад яго, звяртайцеся ў Савецкае РУУС Мінска на: (017) 292-02-02, (029) 356-02-70.

## Сцісла

**Вербаваў у бардэль**

У аэрапорце «Мінск-2» затрыманы грамадзянін усходнеазіяцкай краіны. Мяркуецца, што ён завербаваў і спрабаваў вывезці на сваю радзіму дзвюх мінчанак для прастытуцыі ў бардэлях свайго знаёмага. Затрыманы — 24-гадовы малады чалавек, нядаўні выпускнік беларускай ВНУ.

**Фанаты разграмілі тралейбус**

29 чэрвеня ў Мінску каля гандлёвага цэнтра Maximus маладыя людзі на некалькіх машынах блакавалі рух тралейбуса №3. Разбілі ў ім шыбы і пашкодзілі корпус, распылілі слёзацечны газ, пасля чаго збеглі. Асобы хуліганаў высветлілі. Дэбашырамі былі фанаты футбольнага «Партызана». Прычынай вандалізму стала разборка з фанатамі «Тарпеда», якія ехалі ў тралейбусе. У дачыненні да больш чым 10 чалавек заведзена крымінальная справа за хуліганства, яны знаходзяцца ў ізалятары.

**Двайное забойства на вёсцы**

Вяскоўцы ў Даўгінаве Вілейскага раёна пачулі стрэлы вечарам 10 ліпеня і патэлефанавалі на 102. Калі прыехала міліцыя, ім адкрылася страшная трагедыя. У адным з дамоў знайшлі зарэзанай 66-гадовую гаспадыню і застрэленым яе 59-гадовага суседа. А недалёка ад дома труп 51-гадовага мінчука. Мяркуецца, што мінчук у канфлікце са сваячкай зарэзаў яе, а мужчыну застрэліў са сваёй паляўнічай стрэльбы. А тады застрэліўся сам.

**На дачах знайшлі труп**

59-гадовы мінчук знік на пачатку ліпеня. Падчас пошукавых мерапрыемстваў знаёмы зніклага прызнаўся ў забойстве і паказаў месца, дзе знаходзіцца труп. Каб схаваць злачынства, ён закапаў труп на дачным участку ў Дзяржынскім раёне.

**КМ**

# Сшыткі з нацыянальным каларытам

Віцебчук **Уладзімір Рамановіч** ствярае новы дызайнерскі брэнд для дзяцей і школьнікаў.






Сшыткі з беларускім арнаментам, магніты з алфавітам на лядоўню, нататнікі з нацыянальным каларытам і шмат чаго іншага робіцца сіламі адной сям'і.

На такую творчасць Уладзіміра натхнілі двое малых сыноў. Нягледзячы на тое, што жонка руская, дзяцей у сям'і ад самага пачатку імкнуліся выхоўваць па-беларуску.

«Мы сутыкнуліся з тым, што нам катастрафічна не хапала матэрыялаў для таго, каб дзеткі вучыліся размаўляць па-беларуску. Калі нешта і сустракаецца на беларускай мове, то хіба для школьнікаў, а не малых дзяцей. Ды і якасць гэтай прадукцыі, мягка кажучы, так сабе».

Так першай спробай стаў звычайны алфавіт на лядоўню для малых дзетак.

«Пакуль вы занятыя прыгатаваннем ежы ці бавіце час на кухні, дзеці ў форме гульні змогуць складаць словы і вывучаць мову», — расказвае пра магніты Уладзімір.

«Мы вырашылі рабіць менавіта сшыткі з арнаментам, алфавітам на адваротным баку ды прымаўкамі. Сшыткі могуць быць нават з «Пагоняй», абы ў дзетак не было праблем у школе. Далейшыя планы — запусціць серыю нататнікаў і альбомаў для малявання. Усё, вядома ж, у прыгожым беларускім аздабленні».

Прадукцыю ў хуткім часе можна будзе купіць у інтэрнэт-краме, якая знаходзіцца ў стадыі распрацоўкі. А замовы прымаюцца ўжо зараз на інтэрнэт-скрыню vladi_r@tut.by і праз суполку «Укантакце» «Магніты на лядоўню, сшыткі — маладым беларусам». Дастаўка ажыццяўляецца па ўсёй Беларусі. А калі трэба, то і за яе межы.

**Вольга Гарапучык**



**Фотафакт**

**У Баранавічах з'явілася графіці з Кейстутам**

Графіці князя Кейстута, бацькі Вітаўта, на адным з фасадаў будынка было намалявана вулічнымі мастакамі ў межах акцыі MustAct — MustArt, якая ладзіцца пры падтрымцы мясцовай улады і Velcom па ўсёй Беларусі.

# Жыхар Гродна скраў з заапарку насуху

У дачыненні да 42-гадовага жыхара Гродна распачата крымінальная справа за крадзеж з мясцовага заапарку насухі — маленькага пухнатага звярка з доўгім носам і вялікім паласатым хвастом.

Як паведамілі ва УУС Гродзенскага аблвыканкама, на тэрыторыі заапарку ёсць «Бабулін дворык» — спецыяльна адведзенае месца, дзе можна пагладзіць бяспечных жывёл і сфатаграфавацца з імі. Аматар прыроды прыйшоў туды. Прычым, паводле слоў відавочцаў, мужчына нават размаўляў з жывёламі, доўга гладзіў звярка, а затым непрыкметна сунуў за пазуху і пайшоў.

Прапажу выявілі супрацоўнікі заапарку толькі вечарам, калі адпраўлялі жывёл у свае вальеры. Звярнулі ўвагу, што ў маці-насухі не хапае аднаго дзіцяняці. Тады і звярнуліся ў міліцыю. У працэсе пошуку супрацоўнікі звярнулі ўвагу на свежую аб'яву ў інтэрнэце — аб продажы рэдкай насухі.

Калі гутарылі з прадаўцом, высветлілася, што ў яго — той самы звярок, які быў скрадзены. Мужчына ва ўсім прызнаўся, яго затрымалі. Жывёліну вярнулі ў заапарк да сваёй сям'і

**БелаПАН**



# Беларусь удалася



Піша **Віктар Марціновіч**.

Газета Глускага райвыканкама «Радзіма» заўсёды была для мяне рупарам часу. Некалі яна паведамляла пра жыццё аднайменнага калгасу, пра надоі, палеткі і трактары. Ішоў час, Алексіевіч выдала «Цынкавых хлопчыкаў», у Вільні адрадзілі «Нашу Ніву», у Мінску знайшлі Курапаты, Адамовіч напісаў пра беларускую Вандэю, а газета «Радзіма» працягвала паведамляць пра надоі, палеткі і трактары. Газета «Радзіма» сталася для мяне пульсам Беларусі, тым, што кажа Беларусь у сваім глыбокім сне.

Калі ў мінулыя выходныя я разгарнуў газету «Радзіма», я раптам зразумеў: нешта змянілася. Назва артыкула была сціплай і плоскай, як неба Глушчыны: «Ён пісаў тое, што бачыў». Пад артыкулам змешчанае невялічкае фота. Артыкул — пра Васіля Быкава...

«Простыя рэчы» — паведамляе нам білборд на трасе, што вядзе з Мінска ў Заслаўе. На білбордзе выяўленыя лодка і возера. Ён рэкламуе агратурызм. Білборд прысутнічае ў некалькіх варыяцыях, кожны з якіх мае гэтае культавае словазлучэнне: «Простыя рэчы». Крышачку раней песня «Простыя рэчы» штовечар гучала на цэнтральным тэлеканале, у роліку velcom. І вось мне цікава: што адчуў Міхал Анемпадыстаў? Ці зварухнулася сэрца? Ці прыемна было забароненаму музыку Ляўону Вольскаму, калі раптам па ЦТ пусцілі песню, за якую яго памятаюць і любяць?

Удакладню: гэта ўсё не «партызаншчына». Я цалкам выключаю, што газета «Радзіма» публікавала пра Быкава ў абыход выканкама ці velcom рабіў той ролік у спадзяванні, што «пільныя асобы» не зразумеюць, а ўсе астатнія пасміхнуцца ў вынаходніцтва дасціпных хітраванаў-рэкламістаў, якія такім чынам перадалі прывітос усім нармальным людзям краіны. Не, гэта прыкметы часу, зрухі з самай глыбіні (Глуск!).

Над Мінскам лунаюць расцяжкі з Мірскім замкам. Угледаюся ў слоган: «Гісторыя — тое, што нас аб'ядноўвае». Гісторыю ілюструе не Вялікая Айчынная, а Мірскі замак. У Віцебску тым часам пад выццё па-славянафільску настроеных грамадзян ставяць помнік Альгерду. У Магілёве «за неадпаведнасць рэаліям» змяняюць назву Савецкай плошчы, прычым свае рашэнне старшыня гарвыканкама абвяшчае па-беларуску.

Выява «Закаханых у небе» Марка Шагала рушыць у святочнай калоне Віцебскай вобласці на парадзе, прысвечаным Дню незалежнасці. Шагал робіцца адным з сімвалаў дзяржавы, недзе паміж гербам і сцягам. У самім Віцебску з Шагала

**Калі б па Мінску ліпеня 2014 года прайшоўся нацыяналіст-рамантык з сярэдзіны 90-х, ён бы проста не паверыў сваім вачам**

зроблены культ, кшталту таго, што ў Барысаве зладжаны вакол футбольнага клуба БАТЭ (там ёсць нават кавярня «БАТЭ», сам бачыў!). Шагал у Віцебску цяпер нават на аўтазапраўках.

І вось ці маглі мы гэта ўсё дапусціць 10—15 гадоў назад? Ці маглі мы марыць, што паўсюль у сталіцы будуць стаяць сіці-лайты з надпісамі «Каханне» — маё першае слова пабеларуску»? Што моўныя курсы будуць збіраць сотні людзей?

Цяпер на адкрыцці дома-музея Васіля Быкава выступае сенатар Мікалай Чаргінец, які перадае ў дар, для калекцыі, архіў свайго ліставання з класікам.

Чамусьці мне здаецца, што, калі б па Мінску ліпеня 2014 года прайшоўся нацыяналіст-рамантык з сярэдзіны 90-х, калі б ён завітаў на моўныя курсы, падзівіўся на рэкламу, пачытаў навіны і пабачыў выставы ў музеях (ну, напрыклад, пра сто гадоў беларускага авангарду), ён бы проста не паверыў сваім вачам. У палове рэстаранаў меню па-беларуску. Што праўда, калі спытаць у дзяўчыны-афіцыянткі нешта пра склад страваў, яна хутчэй за ўсё пачырванее і пачне лепятаць, што яна «на мове не очэнь можа». Але тым не меней, тым не меней.

Самае цікавае: перамога прыйшла без пачуцця перамогі. Нацыянальна арыентаваныя сілы не атрымлівалі доступу да ўлады. Проста ўлада праз збег абставін, далёкіх ад пытанняў адраджэння, павольна зрабілася нацыянальна арыентаванай сілай. Так, ёсць і прыкрае: дэвелаперы фактычна разнеслі цэнтр Мінска, цяпер ужо і ўздоўж Свіслачы на Нямізе гуляць непрыемна, так, вуліцы Караткевіча дагэтуль няма, а ў рэгіёнах ідзе такая «рэстаўрацыя» помнікаў, за якую варта было б паадрываць галовы. Але давайце сканцэнтруемся на добрым. На Альгерду ў Віцебску, на мове ў Мінску, на Быкаву, на Шагалу нарэшце.

Здаецца, нядаўні выступ адной знанай асобы па-беларуску быў сігналам да паскарэння працэсаў, пра якія я пішу. Той заснаваны на савецкай ідэнтычнасці (Вялікая Айчынная, братэрства народаў і г.д.) праект, які будаваўся ў Беларусі ў мінулыя гады, пацярпеў паразу ва ўкраінскім Крыме. Не выключаю, што хутка яны паставяць помнікі Радзівілам і Сапегам, а бітву пад Оршай пачнуць святкаваць на ўзроўні гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Сенатары пачнуць выдаваць раманы на беларускай мове, а «эстрада», якая цяпер выдае свае «упца-упцы» на фені Мішы Шуфуцінскага, пачне засвойваць фрыкатыўнае «г» непасрэдна на сцэне.

# Talentforderung

**Чаму Германія стала** чэмпіёнам свету па футболе.

Першы футбольны матч, які я свядома паглядзеў па тэлевізары, быў у 1994-м годзе. Дрэвы тады былі вялікімі, а футбалісты яшчэ запраўлялі майку ў шорты. Гэта было адкрыццё чэмпіянату свету ў ЗША, сустракаліся Германія і Балівія. Я нічога не ведаў пра каманды. Не ведаў, што немцы — дзейныя чэмпіёны свету, а балівійцы — каманда-аўтсайдар. Перапетыі гульні ў памяці, вядома, ужо не ўсплывуць. Важным было тое, што немцы перамаглі. Я падумаў тады: «Нішцяк каманда, буду за яе заўзець». Вось і заўзею дваццаць гадоў.

Я вельмі хацеў, каб немцы перамагалі. Даказваў сваім сябрам, што яны мацнейшыя за італьянцаў і англічан. Аднак за гэты час трыумф немцаў я бачыў толькі аднойчы — на Еўра-1996. Тады маім любімым гульцом каманды быў брамнік Андрэас Кёпке. Не самы выбітны гулец, ён не пагуляў за вялікія клубы. Але адбіў такі важны пенальці ў паўфінале ад англічаніна Гарэта Саўтгейта. На мундыялі 1998 года я буду вельмі балюча ўспрымаць нават не пройгрышы немцаў, а няўдалую гульню Кёпке, які дапускаў дзіцячыя памылкі.

Еўра-2000 для зборнай Германіі пераўтварылася ў сапраўдны кашмар. Бундэсманшафт саступіла ў групе партугальцам і англічанам. І самым галоўным у той нямецкай безвыходнасці быў нават не вынік, а той факт, што абсалютна неназіралася моладзі, якая б магла б змяніць легендарнае пакаленне Клінсмана, Бірхафа, Матэуса, Баслера і Эфенберга. Ад той Германіі, пры якую казаў Гары Лінекер («У футбол гуляюць дваццаць два чалавекі, а перамагаюць заўсёды немцы»), не засталося нічога, акрамя імя.


Галоўны трэнер Германіі Яхім Лёў (у цэнтры) трыумфуе.

Якраз у той час у Германіі была зацверджаная праграма Talentforderung («Попыт на таленты»). У выніку па ўсёй Германіі паўсталі 366 (!) трэніровачных цэнтраў для дзяцей ва ўзросце ад 11 да 14 гадоў. У федэрацыі на працу прыйшло больш за тысячу скаўтаў, якія безупынна прагладаюць таленавітых падлеткаў. Шанцы згубіцца ў вялікім футболе, натуральна, застаюцца. Але яны звedзеныя да мінімуму.

Сённяшняя зборная Германіі, за выключэннем аксакалаў Клозэ і Лама, — гэта якраз і ёсць дзеці рэформ Talentforderung. Ноер, Хумельс, Бааtэнг, Бадштубер, Швайнштайгер, Крос, Хедзіра, Азіл, Гётцэ, Мюлер, Шурле. Столькі таленавітых гульцоў сёння не з'яўляецца ні ў адной краіне свету. А яны ў такім узросце, што гэта не першы іхні чэмпіянат і, зразумела, не апошні.

Разам з тым, іх жа ўжо падпіраюць у спіну яшчэ зусім «зялёныя», але страшна таленавітыя Гінтэр, Маер, Арнольд, Дурм і многія іншыя. Немцам няма чаго клапаціцца пра сваю будучыню. Рэзкі кантраст з той жа Англіяй, дзе Уэйн Руні быў ці не апошняй яркай успышкай. І хто ведае, калі будзе наступная.

Калі я пачынаў глядзець футбол, то нямецкую зборную ўспрымалі як тую, што галоўную ўвагу аддае абароне, прыгажосць для яе не галоўнае. Цяпер жа якраз немцы пяюць гімн атакуючаму футболу, а тыя ж аргенцінцы (супернікі па фінале) — дэманстравалі самы няяркі і прагматычны футбол. Вось так усё перамяшалася.

Нямецкая зборная сёння не валодае суперзоркамі: нельга ж параўнаць Азіла і Мюлера з Месі і Ібрагімавічам. Асобы рознага калібру. Маладыя немцы нечым нагадвалі барысаўскі БАТЭ, які першы раз прабіваўся ў групавы этап Лігі чэмпіёнаў. Каманды моцныя не індывідуальнасцямі, а менавіта калектывам.

Варта таксама звярнуць увагу на постаць нямецкага трэнера Яхіма Лёва. Гэта быў мала чым адметны футбаліст, зусім не адметны трэнер, які працаваў з глухімі клубамі Аўстрыі і Турцыі. Лёў быў знаёмы з Юргенам Клінсманам, які запрасіў асісціраваць Яхіма ў зборнай Германіі на мундыяль у 2006 годзе. Тая зборная Германіі і пачала рваць шаблоны, гуляючы прыгожа і вынікова. Але ў Клінсмана былі сямейныя справы ў ЗША, ён не мог доўга заставацца ў Еўропе. На замену яму пакінулі аднадумцу Лёва. За гэты час ён вырас у наймацнейшага трэнера свету, якога б хацелі атрымаць вядучыя клубы і зборныя. Менавіта Лёў у адным з экстра-таймаў фіналу з Аргенцінай схапіў Марыа Гётцэ ды пачаў крычаць яму: «Ачомайся! Ачомайся!» Гётцэ і прынёс перамогу Немеччыне. І чацвёрты тытул у гісторыі.

Будучыня нямецкага футбола выглядае гэтак жа бліскуча.

І так — мая дзіцячая футбольная мара нарэшце спраўдзілася. Германія — чэмпіён!

**Зміцер Панкавец**

Аргенцінец **Лiянэль Месі** — найлепшы футбаліст чэмпіянату свету.

**Гулец турніру**

# Дэфіцыт гармону росту

Вядома, гэта слабое суцяшэнне, калі твая каманда прайграе ў фінале чэмпіянату свету, але спецыялісты вырашылі прызнаць Ліянэля Месі самым карысным гульцом мундыялю.

27-гадовы нападаючы «Барселоны» дасягаў многага з клубам (трохразовы пераможца Лігі чэмпіёнаў, шасціразовы чэмпіён Іспаніі), атрымліваў індывідуальныя ўзнагароды (некалькі разоў «Залаты мяч» і «Залатую буцу»), а вось са зборнай Аргенціны здзяйсненні куды больш сціплыя (маецца толькі перамога на Алімпіядзе). Ясна, што найлепшаму футбалісту сучаснасці вельмі хацелася гэтую несправядлівасць хутчэй выправіць.

Месі нарадзіўся не ў сталіцы, але ў вялікім аргенцінскім горадзе Расарыа. Між іншым, гэта радзіма найвялікшага рэвалюцыянера XX стагоддзя Эрнэста Чэ Гевары. Дарэчы, паходжанне ў Месі італьянскае. Хлопчык пачынаў гуляць у малавядомай камандзе «Грандолі», якую трэніраваў ягоны бацька. Аднак у 11 гадоў Леа паставілі дыягназ «дэфіцыт гармону росту».

Аргенцінскі гранд «Рывер Плэйт» (яго балельшчыкі карыстаюцца бел-чырвонабелымі сцягамі) лячыць таленавітага падлетка адмовіўся, а вось іспанская «Барселона» ўклала ў хлопца грошы. І, мабыць, не шкадуюць зусім пра гэта. За 277 матчаў у «Барселоне» Месі забіў 243 галы. Фенаменальны бамбардзір.

Праўда, надта высокім Месі так і не стаў. Ягоны рост — 169 см. І мянушку праз гэта мае адпаведную — Блыха. Ужо пасля таго, як Леа дабіўся


Месі не хаваў расчаравання, хоць яго і прызналі найлепшым.

поспехаў, ён аплаціў лячэнне ад «дэфіцыту гармону росту» для 6-гадовага мараканца Валіда Кашаша, які марыць стаць футбалістам.

У прыватным жыцці Месі вельмі сціплы чалавек. Ён інтраверт, якому цяжка размаўляць нават па тэлефоне, у большасці выпадкаў карыстаецца эсэмэс-камі. Калі Месі забівае галы, то падымае абедзве рукі ўгору, тым самым салютуючы сваёй памерлай бабулі. Аргенцінец верыць, што яна бачыць ягоныя галы з неба.

Самы славуты футбаліст у гісторыі Дыега Марадона сказаў, што Месі не заслужыў гэтую ўзнагароду і ўпусціў шанец стаць вялікім футбалістам. Зрэшты, прынамсі адзін шанец выправіць сітуацыю ў аргенцінца дакладна будзе.

ЗП

## Сціслa

**Шакіра: Я ганаруся Калумбіяй і Радрыгесам**

Вядомая ў свеце спявачка Шакіра — вялікая аматарка футбола. Яна наведвае ўсе буйныя спаборніцтвы. А яшчэ яна сустракаецца з гульцом «Барселоны» Піке. «Я ганаруся, што мела магчымасць бачыць найлепшыя паказнікі маёй краіны на чэмпіянатах свету», — сказала Шакіра. Яе Калумбія ў чвэрцьфінале саступіла Бразіліі, а нападаючы Хамес Радрыгес з шасцю галамі стаў найлепшым бамбардзірам мундыялю.

**Упершыню на тэрыторыі Амерыкі**

Раней чэмпіянаты на амерыканскім мацерыку выйгравалі толькі мясцовыя каманды. Немцы першыя, хто зламаў традыцыю. Цяпер у супрацьстаянні Еўропа — Амерыка лік 11:9 на карысць першых.

**Беларускага футбаліста Юрчанку пасадзілі ў турму**

Нападаючы салігорскага «Шахцёра» і колішні гулец моладзевай зборнай не сплаціў штрафы за хуткую язду. У выніку яго арыштавалі на 4 месяцы ды змясцілі ў жодзінскі ізалятар. Юрчанка — адзіны беларускі футбаліст цыганскага паходжання.

**Памёр Ігар Шусцікаў**

Колішняга гульца бабруйскай «Белшыны» не стала на 43-м годзе жыцця. У чэмпіянатах Беларусі ён выйграваў срэбра і двойчы бронзу. Летась не стала яшчэ аднаго гульца «Белшыны» таго пакалення — Ігара Градабоева, яму было 40 гадоў.

ЗП

# Манументальная мова

Якія помнікі роднай мове ёсць у свеце? Піша **Дзяніс Тушынскі**.

У 2003 годзе ў Полацку быў адкрыты помнік адметнай літары Ў, які сімвалізуе ўнікальнасць беларускай мовы. Але выклікі нацыянальнай мове і ідэнтычнасці не знікаюць. Моўна-нацыянальны нігілізм рыхтуе глебу для паўтарэння крымскага ці ўсходнеўкраінскага сцэнара і ў Беларусі.

Ці не варта на гэтым фоне задумацца над адкрыццём больш грунтоўнага архітэктурнага сімвала беларускай мовы ў сталіцы краіны? Такі аб'ект стане адказам на імперскае прамыванне мазгоў.

Можна сказаць, што стварэнне гэтага арт-аб'екта цяпер — пір падчас моўнага мору. Помнік можа ўспрымацца як сімвалічная спроба маральна кампенсаваць слабыя пазіцыі беларускай мовы ў краіне. Але зірніце з іншага боку: гэта рэч навырост, арыенцір, маяк, сімвал надзеі.

Помнікі роднай мове, а нават моўным асаблівасцям, ёсць у многіх краінах свету.

Напрыклад, у Харватыі ёсць манументы асобным літарам глаголіцы. У Сыктыўкары, сталіцы Рэспублікі Комі (Расія), стаіць помнік у выглядзе літары Ӧ з алфавіта Комі. А ў расійскім Ульянаўску ёсць помнік літары Ё. Ідэя яго паставіць узнікла ў 1997 годзе, калі святкавалася 200-годдзе яе першай фіксацыі на пісьме. У расійскай Волагдзе ёсць помнік літары О, які ўшаноўвае мясцовае оканне.


Помнік афрыкаанс у Паарле.

У гэтым кірунку ў нас яшчэ ёсць варыянты: напрыклад, помнікі ДЖ і ДЗ ці залатому правілу «жы, шы пішы з ы».

Калі ж пачала шырыцца гэтая традыцыя? Першы «моўны помнік» з'явіўся ў Паўднёвай Афрыцы, у горадзе Бюргерсдорп, у 1893 і быў прысвечаны афрыкаанс — мясцоваму варыянту галандскай мовы. Помнік адзначаў набыццё мовай роўных правоў з англійскай у парламенце тагачаснай Капскай калоніі Брытаніі. Пазней ён пачаў успрымацца і як манумент землякам, якія загінулі падчас Англа-бурскай вайны (1899—1902).

Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка дае і найлепшы прыклад помніка мове: гэта грандыёзны манумент мове афрыкаанс у горадзе Паарл. Мясцовасць вакол аднайменнай гары — адно з найстарэйшых месцаў рассялення еўрапейцаў на поўдні Афрыкі. Менавіта там распачаўся рух за ўжыванне афрыкаанс на пісьме і за пераклад Бібліі на гэту мову.

## Ад мовы апартэіду да мовы яднання?

Моўнае пытанне ў Паўднёвай Афрыцы заўжды стаяла востра. У канцы XVIII стагоддзя Брытанія захоплівае заснаваную галандцамі Капскую калонію і абвяшчае англійскую мовай адукацыі і ўрада, пачынаецца перыяд англізацыі. Школьнікаў за выкарыстанне роднай мовы прымушаюць насіць шыльду з надпісам «Я — асёл». Родная мова робіцца для афрыканераў (так называлі белых перасяленцаў—носьбітаў афрыкаанс) сімвалам нацыянальнай ідэнтычнасці і адраджэння.



**Сімволіка манумента афрыкаанс у горадзе Паарл**

Самая высокая частка манумента — гіпербала, якая ніколі не спыніць свой рост (А). На такі сімвал мовы архітэктара Яана ван Вейка натхнілі словы пісьменніка і палітыка Карнэліса Лангенховена аб імклівым росце ўжывання пісьмовай афрыкаанс. Вышыня калоны — 57 метраў. Яна таксама ўвасабляе метафару паэта ван Вейка Лоу, які параўнаў афрыкаанс з мячом, што ззяе.

Стэла мае па ўсёй вышыні адтуліны, у якія трапляе сонечнае святло. Каля падмурка б'е крыніца, якая сімвалізуе выток мовы афрыкаанс. У нашага Караткевіча таксам ёсць метафара «мова — булатны клінок». Цікава, як мог бы выглядаць сімвал беларускай мовы?

Побач стаіць меншая калона, што сімвалізуе Паўднёва-Афрыканскую Рэспубліку (Б). Яна мае адтуліну ў кірунку Афрыкі, што мае паказаць адкрытасць і ўзаемадзеянне паміж Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікай, афрыкаанс і ўсім кантынентам. Калоны атачае сажалка. Сонца адбіваецца ў вадзе, грае на паверхні калонаў. Па задумцы архітэктара, кожны сонечны водбліск — гэта слова, кожная светлавая лінія — сказ. Вада сімвалізуе тое, што афрыкаанс — жывая мова, якая развіваецца.

Па словах архітэктара, гэтыя калоны — мова і рэспубліка — стаяць на адной глебе, у адной вадзе і пад адным сонцам. Такая лаканічная нацыянальная ідэалогія...

Словы ван Вейка Лоу аб тым, што афрыкаанс — гэта мова, якая злучае Заходнюю Еўропу і Афрыку, адлюстраваны ў іншых частках манумента. Тры калоны ў левай (заходняй) частцы (В) сімвалізуюць уплыў на афрыкаанс еўрапейскіх моваў: галандскай, нямецкай, англійскай, французскай і іншых. Ніводная калона не прадстаўляе пэўную мову. Калоны змяншаюцца па памеры ў кірунку да цэнтральнай гіпербалы. Гэта сімвалізуе паступовае змяншэнне ўплыву еўрапейскіх моваў на афрыкаанс.

Узвышэнне пасярод лесвіцы да помніка (Г) азначае ўплыў на афрыкаанс таксама моў малайскай, арабскай і крэольскай малайска-партугальскай.

Круглы подыум справа (Д) сімвалізуе паўднёвую частку Афрыкі. Паўшар'і на подыуме сімвалізуюць уплыў афрыканскіх моваў: кхоі, ксоза, зулу, сота. Зноў жа ніводнае паўшар'е не абазначае пэўную мову. Памер паўшар'яў якраз павялічваецца ў кірунку гіпербалы.

Афрыканскія і еўрапейскія мовы зліваюцца, утвараючы мост (Е), і ўліваюцца ў падмурак гіпербалы.

Адзін элемент помніка падаецца залішнім — кароткі надпіс перад лесвіцай да яго. Яго можна




перакласці — «Мы адданыя гэтаму» ці «Мы ставімся да гэтага сур'ёзна». Можна было б і не пісаць… Фраза прыпісваецца некалькім палітыкам як фрагмент іх прамоў супраць палітыкі англізацыі Паўднёвай Афрыкі.

**Афрыкаанс**

(бурская мова) адна з 11 дзяржаўных моваў ПАР, трэцяя паводле пашыранасці пасля моваў зулу і коса. Сфармавалася ў XVIII стагоддзі на аснове мовы галандскіх перасяленцаў у Капскай калоніі.

У канцы XIX стагоддзя пачынаецца рух за развіццё мовы афрыкаанс. Да таго часу гэта мова ўспрымалася як нізкастатусны дыялект. Змаганне за афіцыйны статус афрыкаанс накладвае адбітак на нацыянальны характар і ідэалогію афрыканераў. Нягледзячы на фармальнае ўраўнаважванне ў правах з англійскай галандскай мовы ў 1910, а афрыкаанс у 1925, фактычна перыяд англізацыі цягнецца да 1948 года, калі да ўлады прыходзіць Нацыяналістычная партыя.

Перыяд ад 1948 да 1994 — час росквіту афрыкаанс. Адначасова гэта і перыяд апартэіду як афіцыйнай дзяржаўнай палітыкі. Падчас апартэіду дзяржава навязвае гэту мову іншым моўным супольнасцям. У 1976 загад ужываць афрыкаанс у якасці адзінай мовы навучання ў негрыцянскіх школах справакаваў дэманстрацыю пратэсту ў Ёханэсбургу. Каля 15000 чалавек, у асноўным школьнікі, выйшлі на вуліцы з плакатамі кшталту «Афрыкаанс — прэч!». Дэманстрацыя была расстраляная паліцыяй.

Біскуп Дэсманд Туту назваў афрыкаанс мовай прыгнятальнікаў. У сваю чаргу англійская мова стала знакам пратэсту і сродкам аб'яднання негрыцянскага насельніцтва.

Камітэт па стварэнні помніка мове афрыкаанс быў утвораны ў 1942, у 1964 быў абвешчаны конкурс на найлепшы праект. Помнік быў усталяваны ў 1975 годзе ў гонар 50-годдзя абвяшчэння афрыкаанс афіцыйнай мовай, а таксама стагадовага юбілею Таварыства сапраўдных афрыканераў, якое займалася прапагандай афрыкаанс. На мерапрыемстве прысутнічала больш за 40000 чалавек. Пагроза белых пісьменнікаў праігнараваць мерапрыемства, калі на яго не запросяць пісьменнікаў іншых рас, прымусіла ўлады пайсці на такую саступку.

У Расіі ёсць помнікі валагодскаму «О» і агульнарасійскаму «Ё».



«Рускае слова» ў Белгарадзе (Расія).



Першы ў свеце помнік мове — манумент афрыкаанс у Бюргерсдорпе (1893). Жанчына трымае ў руках табліцу з надпісам: «Свабода для галандскай мовы». Падчас Англа-бурскай вайны статуя была зрынутая і згубленая.

Апартэід быў адменены ў 1994, і сёння ў краіне адзінаццаць афіцыйных моў. Паводле перапісу 2011 года, афрыкаанс быў роднай мовай 13,5% насельніцтва, амаль 7 мільёнаў чалавек. Гэта трэцяя па пашыранасці мова краіны.

У адной са сваіх прамоў у 1995 Нэльсан Мандэла сказаў, што, хаця раней афрыкаанс, як сродак распаўсюду палітыкі апартэіду, падзяляў народ Паўднёвай Афрыкі, гэта таксама была і мова тых, хто змагаўся з прыгнётам.

57-метровы манумент — не адзіны ў ПАР помнік мове. У розных гарадах краіны не менш за 20 помнікаў афрыкаанс.

Далей — пра сусветны досвед манументалънага ўшанавання моваў.

## Літара — добра, а алфавіт — лепей

Цэлымі скульптурнымі кампазіцыямі, прысвечанымі свайму алфавіту, вызначаецца Арменія. Армянскае пісьмо было створана ў 405—406 гадах біскупам Месропам Маштоцам. З таго часу армянскі алфавіт зьмяніўся нязначна. Адзін з мемарыялаў знаходзіцца ў вёсцы Ашакан, побач з царквой святога Месропа Маштоца, дзе пахаваны асветнік. У краіне існуе традыцыя: у пачатку навучальнага года многія першакласнікі вывучаюць першую літару алфавіта менавіта ў гэтай царкве. Кожная літара на мемарыяле выкананая ў выглядзе хачкара — традыцыйнай армянскай каменнай стэлы з выявай крыжа. *Хач* па-армянску значыць крыж, а *кар* — камень.

Іншая скульптурная кампазіцыя, прысвечаная армянскаму алфавіту, — на схіле гары Арагац, самай высокай у Арменіі, каля вёскі Арташаван. Гэты парк алфавіта быў заснаваны ў гонар яго 1600-гадовага юбілею.

Ёсць помнік армянскаму алфавіту і ў Клііўлендзе (ЗША), у Армянскім культурным садзе. Манумент складаецца з прыступчатых гранітных блокаў, якія сімвалізуюць нялростую гісторыю Арменіі і адначасова — харaство яе горнай прыроды. На адным баку гэтых блокаў — выявы літар, на адваротным — імёны дзеячаў армянскай гісторыі і культуры.

## Глаголіца

У Харватыі, у гарадку Хум (які занесены ў Кнігу рэкордаў Гінэса як самы маленькі горад у свеце), ёсць «Алея служыцеляў глаголіцы». Гэта нізка з адзінаццаці асобных манументаў і скульптурных кампазіцый, што цягнуцца агулам на сем кіламетраў. Яны ўшаноўваюць глаголіцу, дзеячаў культуры, гістарычныя падзеі. Напрыклад, там ёсць «стол Кірылы і Мятода (Мяфодзія)». Кірыл, верагодна, з'яўляецца аўтарам глагалічнага пісьма. Дарэчы, братам усталявана багата іншых помнікаў: у Сафіі, Кіеве, Маскве і інш. Глаголіца найдаўжэй (да канца XVIII ст.) захавалася менавіта ў Харватыі. У Хуме можна набыць сувеніры ў выглядзе літар гэтага алфавіта.

## «Слова яднае»

Яшчэ адна група помнікаў — гэта манументы непасрэдна мове. Адзін з іх усталяваны ў Эстоніі на ахвяраванні грамадзян. Формай помнік нагадвае стылізаваную галаву пеўня з вокладкі эстонскага буквара. Надпіс на помніку: «Слова яднае». А які слоган можна напісаць на матэрыяльным увасабленні беларускай мовы?

Помнік «Рускае слова» ёсць у Белгарадзе. Ён выкананы ў выглядзе бронзавай Бібліі. Над Кнігай — голуб з залатым пяром, сімвалам Добрай весткі.

Вобраз разгорнутай кнігі на круглым пастаменце выкарыстаны і ў праекце малдаўскага манумента, які зараз ствараецца. Ён будзе мець дваццаць стэл-старонак, на якіх будзе запісаная гісторыя румынскай мовы. Плануецца, што дыяметр помніка складзе 20 метраў, а вышыня старонак — 6,5 метра.

Помнікі роднай мове ёсць і ў Азербайджане.



Помнік армянскаму алфавіту ў Ашакане.



Помнік глаголіцы ў Харватыі.

## Помнік пакутнікам за мову

Нарэшце, у Дацы, сталіцы Бангладэш, ёсць манумент пад назвай Шахід мінар, Помнік пакутнікам. Гэта помнік студэнтам, забітым пакістанскай паліцыяй за выступ у абарону мовы бенгалі 21 лютага 1952. Сёння гэтая дата адзначаецца як Міжнародны дзень роднай мовы.

Які б мог быць помнік беларускай мове? Найлепшым ушанаваннем мовы быў бы не матэрыяльны аб'ект, а дасягненне, якое забяспечыць далейшае існаванне мовы. Напрыклад, змены ў Закон аб мовах, універсітэт з беларускай мовай выкладання, беларускамоўны Windows. Але і матэрыяльны знак быў бы карысным. Прычым карысць — і задавальненне — будзе не толькі ад выніку, але і ад працэсу стварэння помніка. Увагу грамадства да моўных праблем можа прыцягнуць конкурс на найлепшы праект, абмеркаванне месца ўсталявання... Магчыма, у вас ужо з'явіліся ідэі?

**Дзяніс Тушынскі**



Помнік студэнтам, расстраляным за мову ў Бангладэш.

**Дзяніс Тушынскі**
Нар. 1979. Намеснік старшыні Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны. Лінгвіст. Кандыдат філалагічных навук.

# Адным — імпартныя шпалеры, другім — наручнікі

Трэйдар «Беларуськалія» Беларуская калійная кампанія абвесціла аб правядзенні тэндару для выбару падрадчыка на рамонт двух офісаў дырэктарата прадпрыемства ў свежазбудаваным будынку на праспекце Машэрава. Згодна з конкурснай дакументацыяй, у БКК гатовыя выдаткаваць на паляпшэнне невыносных умоў працы неназваных намеснікаў дырэктара да 187,5 мільёнаў рублёў! Чаму так дорага? Ну так і рамонт трэба «няпросты». Да прыкладу, толькі адна трубка дызайнерскіх нямецкіх шпалер Architects Paper, непатрыятычна прапанаваных да паклейкі, пацягне на 600 тыс. руб.




Ну а бляшанка дэкаратыўнай італьянскай фарбы Oikos Pallas пацягне на 500 тыс. руб.

У наш нялёгкі час барацьбы са спажывецкім імпартам дзівуе: а чаго ж не бераце прадукцыю айчынных вытворцаў. «Белшпалеры» і лідская «Лакафарба» адгружаць на склады яшчэ не перасталі.

Тым часам на партале дзяржзакупак галоўнае ўпраўленне камандуючага ўнутранымі войскамі МУС размясціла заяўку на набыццё 99 электрашокераў, 403 наручнікаў, 424 бронекамізэлек, а таксама спецаўтамабіляў і панарамных масак.

А гэта пакінем без каментароў…

**Праўдаруб**

# Закуска дарагая, а чарніла — хоць захлыніся

Насельніцтва скарачаецца. Паміраюць людзі, не дажыўшы да пенсіі. А калі і дажываюць, то не доўга пенсію атрымліваюць.

Чаму ж так адбываецца? Па-першае, віной таму палітыка дзяржавы, якая стварае нервовую напружанасць ва ўсёй жыццядзейнасці чалавека: кантракты; думку не выкажы; у пракуратуры, міліцыі, судзе просты чалавек не дакажа нічога...

Па-другое, у кожнай краме вочы разбягаюцца ад шыкоўных налепак на бутэльках. Закуска дарагая, а чарніла — хоць захлыніся. І ўжо захлынуліся — першыя ў свеце па п'янстве.

Па-другое, жудасная экалагічная сітуацыя. Няма ў маёй вёсцы ні аднаго калодзежа, у якім была б прыгодная для ўжывання вада (атручваецца адкідамі жывёлагадоўчых комплексаў і так званымі палямі «фільтрацыі» вакол гарадоў і буйных паселішчаў; унясеннем у глебу павышаных доз мінеральных угнаенняў, ядахімікатаў).

Што ж рабіць? Найперш патрэбныя карэнныя змены ў адносінах працаўнік — уласнасць, бо камандная сістэма нідзе і ніколі не давала плёну. Толькі пасля гэтага можа нешта памяняцца, так я думаю.

**Вячаслаў Сухарэбскі (вёска Русіны, што каля Баранавіч)**

### Абвестка



**Рамесніцкі летнік у вёсцы Азярычына**

Ён праводзіцца ўжо трэці год запар, з 6 па 10 жніўня. Ягоныя ўдзельнікі асвояць традыцыйныя рамесніцкі занятак — пляценне з лазы. Кошык сваімі рукамі — вось што навучыцеся рабіць!

Плюс да таго — кавальства. Кожны зможа выкаваць сабе фібулу!

Вечары займуць этнаграфічныя паходы і народныя танцы ля вогнішча, а завершыць летнік выніковы канцэрт для мясцовых жыхароў і з іх удзелам.

Месца правядзення: бераг ракі Пціч, побач з вёскай Азярычына Пухавіцкага раёна (35 км ад Мінска, 2 км ад Дудутак). Васіль (029) 877-61-59 МТС, (029) 136-46-72 Velcom. aziaryczyna@gmail.com.

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

In memoriam

# Памерла дысідэнтка Валерыя Навадворская

12 ліпеня на 65-м годзе жыцця памерла расійская дысідэнтка Валерыя Навадворская. Яна скалала ў рэанімацыі аддзялення гнойнай хірургіі маскоўскай бальніцы. Прычынай смерці стаў інфекцыйна-таксічны шок.

Навадворская нарадзілася ў 1950 у нашых Баранавічах. У 9 гадоў яе сям'я пераехала ў Маскву. Яна назаўжды захавае цікавасць да Беларусі. Хапала ўсе навіны. Зачытвалася Быкавым. Заклікала беларусаў гаварыць на роднай мове: «Каліноўскі, думаеце, па-руску гаварыў?» Асуджала Пазняка і Навумчыка за выезд з краіны.

Яна мела маральнае права асуджаць. У савецкі час як Навадворскую толькі не мучылі! Тройчы, у 1978, 1985, 1986 гадах, Навадворскую судзілі. Саджалі ў турмы, вар'ятні.

У постсавецкі час яна выкрывала заганы алігархічна-пуцінскай Расіі. Апошнія яе выступы былі ў падтрымку ўкраінцаў. «Вы перамаглі ўжо!» — радавалася яна таму, што свабодная Украіна здолела даць адпор імперыялістам. «Вы не толькі здраднікі, але і ідыёты», — звярталася да сепаратыстаў.

Яна была перакананая, што Расія зажыве шчасліва, толькі калі перастане быць імперыяй. І таму салідарызавалася з усімі яе праціўнікамі.

Яе ідэі былі радыкальнымі. Яна была тыповай расійскай дысідэнткай — максімалісцкай, бескампраміснай, без надзеі на поспех. Гэтым яна рознілася ад дысідэнтаў — інтэлектуалаў Цэнтральнай Еўропы, якія былі схільныя ўпарта, цаглінка за цаглінкай, рабіць «магчымае тут і цяпер» — будавалі свае цэрквы, музеі, працавалі ў акадэміях, спартыўных школах, бізнэсе. А для яе тактыкі «малых крокаў» і «мастацтва магчымага» не існавала.

Яе заўзятасць у некаторых выклікала нянавісць, у іншых — смех. Але чаму яе варта добрым словам узгадваць нам — яна шчыра жадала дабра беларусам.

Гэта быў па-геройску смелы, сардэчны чалавек з той «іншай Расіі», з той вялікай культуры, якая шчыра спагадае за «за нашу і вашу свабоду». Такая Расія была, ёсць і будзе, і з ёй трэба трымаць культурны кантакт.

**Рэд.**

### Спачуванні праз nn.by

Лінія расійскай палітычнай публіцыстыкі ідзе ад Герцэна да Навадворскай: як Герцэн, так і Навадворская — людзі без кроплі шавінізму, без імперскіх тараканаў у галаве. Хіба што два ўдакладненні: Герцэн быў сацыяліст і дэмакрат, Навадворская — лібералка і дэмакратка; Герцэн быў сынам багатага расійскага пана, Навадворская — расійка з выбару — мела іншыя карані. Што падкрэслівае правіла: няважна, які ў цябе светапогляд, якое тваё паходжанне, — важна, ці сумленны, ці чалавечны ты чалавек.

Шкада, больш не пачытаем тэкстаў Валерыі Ільнічны на грані.ру.

Вечная памяць.

**Анатоль Сідарэвіч**

Валерыя Навадворская — гэта чалавек, з чыіх вуснаў я першы раз у жыцці пачуў «Пагоню» Багдановіча, было гэта на адным расейскім talk show у канцы 1990-х. Talk show было прысвечана стасункам Расеі і Беларусі, і Навадворская там абараняла нас з вамі, незалежную і дэмакратычную Беларусь. У расейскай палітыцы ніколі не было і ніколі не будзе другога такога ж адданага і шчырага сябра Беларусі. «Толькі ў сэрцы трывожным пачую за краіну радзімую жах».

Навадворская была зацкаваным сумленнем шматпакутнай расейскай нацыі, калі хочаце. Чалавекам-камертонам, з якім можна было не пагаджацца, чые ацэнкі і выказванні маглі гучаць занадта рэзка і адназначна — але які ў рэшце рэшт ува ўсім меў абсалютную рацыю. Бо праўда — рэч адназначная, хаця і не заўсёды гучыць прыгожа.

Краіна, якой Навадворская прысвяціла сваё жыццё, барацьбе за якую яна аддала сваё здароўе, сваё асабістае шчасце, сваю кар'еру — гэтая краіна была і застаецца глыбока нявартай гэтага чалавека. Гэтая краіна здзекавалася з яе, не разумеючы, што здзекуецца гэтым толькі з сябе самой, самой сабе на бяду.

Кто-то в некрологах сегодня писал, что «из пяти слов, сказанных Новодворской, был не согласен с четырьмя». Я из этих пяти слов был по большому счету согласен с шестью, и нет другого человека в российской политике, за кого я бы настолько же безоговорочно проголосовал как за президента России — если уж быть совсем мечтательными и откровенными.

Простите нас всех, Валерия Ильинична.

**Алесь Чайчыц, Масква**

Найвялікшая страта. Няскораная, незалежная жанчына. Рай ёй светлы.

**Мікіта Волкаў**

Requiescat in pace.

**Алесь Стральцоў-Карвацкі**

Шкада гэтую адважную і разумную жанчыну. Спачуванні родным. Царства ёй нябеснае.

**Віктар Малочка, Салігорск**

Светлая памяць смелай жанчыне!

**Сяргей Трафімчык**

Яскравы ад нас пайшоў чалавек. Шчырыя спачуванні родным і блізкім.

**Алег Дзьячкоў**

Час, калі выпаўзлі пасрэднасці й шэрасці, а Асобы гінуць...

Вечны ёй спачын!

**Лявон Баршчэўскі**

Дон Кіхот Баранавіцкая. Як будзе не хапаць цябе, Валерыя...

**Уладзімір Ляхоўскі**

Светлая памяць!

**Уладзімір Сіўчыкаў**

Вялікая страта для сумленных і высакародных людзей усяго свету...

**Вольга Цярэшчанка, Гомель**

### Пытанне — адказ

Дзень добры, шаноўная рэдакцыя «Нашай нівы»! Я скончыў 4 курс МДЛУ. Ці ёсць у Вас праца з пісьмовым перакладам на беларускую або з беларускай мовы?

З павагай,
**Леў**

Шаноўны дружа, у дадзены момант вакансій няма. Абвесткі пра вакансіі мы публікуем у папяровай газеце і на сайце. Зважайце.

### Навіны падказалі чытачы

## Залева ў Гродне 30 фазанаў патанула



У выніку моцных дажджоў, якія прайшлі ў Беларусі ў мінулыя выхадныя, у Гродзенскім заапарку ў падтопленых клетках загінула 30 фазанаў, паведамляе Гродзенскае абласное ўпраўленне МНС.

Нагадаем, у ноч з 12 на 13 ліпеня ў Гродзенскай вобласці выпаў 41 мм ападкаў пры сярэднямесячнай норме 77 мм, што прывяло да падтаплення 83 падворкаў і падвалаў прыватных домаўладанняў і 40 кватэр шматкватэрных дамоў.

## Старыя беларускія газеты з'явіліся ў інтэрнэце

Бібліятэка імя Урублеўскага Літоўскай Акадэміі навук выклала ў інтэрнэт калекцыю перыёдыкі XX ст.

У тым ліку 210 (!) найменняў беларускіх газет і часопісаў, што выдаваліся ў Вільні ад 1906 да 1940 года. Большасць з гэтых выданняў былі або «аднаднёўкамі», або выходзілі на працягу колькіх месяцаў. Але існавалі і больш трывалыя выданні.

Сярод іншага, на сайце ёсць падшыўкі легендарных «Нашай долі» (1906) і «Нашай Нівы» (1906—1915, 1920), каталіцкіх выданняў «Беларус» (1913—1915) і «Хрысціянская думка» (1928—1939), хрысціянска-дэмакратычнай газеты «Крыніца» (1919—1940), дзіцячых часопісаў «Заранка» (1927—1931) і «Пралеска» (1934—1939), гумарыстычных «Авадзень» (1922—1922) і «Маланка» (1926—1928).

Каб скарыстацца сэрвісам, на старонцы www.mab.lt/en/catalogues трэба перайсці па спасылцы «Old periodicals». Клікнуўшы на назву патрэбнага выдання, на новай старонцы націскайце «Visas tekstas», а як адчыніцца акенца — выбірайце патрэбны год і нумар выдання. Калі трэба захаваць на камп'ютар шмат нумароў адразу, націскайце па спасылках правай клавішай мышы і выбірайце «Захаваць аб'ект як» — гэтак сэканоміце час.

**Кастусь Шыталь, Глыбокае**

Піша **Ганна Севярынец**.

# Баба Маруся

Баба Маруся была тая яшчэ пісьменніца. Сюжэт, драматургію, вартага героя і трапную дэталь вылоўлівала з прасторы вокамгнення, пару хвілінаў разважала, смакавала, нанізвала дакументальную праўду на мастацкую выдумку, спрабавала нават на голас — і на табе, вось гатовая гісторыя ўжо трымціць пад сэрцам, просіцца на волю, а як вырвецца, квітнее? раскошнымі фарбамі на летнім санцапёку.

Яе гісторыі, расказаныя смачнай трасянкай, складаюць мой асабісты залаты фонд беларускай літаратуры, маю спадчыну.



**Віка і міліцыянер**

Ты пытаешся, як там Віка? Нармальна Віка. Сыночка нарадзіла, у Рэчыцы жыве. Бацька іхны, праўда, кінуў іх, Віка адна малога росціць. Спрабавала яна на работу ўстроіцца, хацела ў прасцітуткі пайсці. Ага... Пайшла яна туды на сабяседаванне, ну, туды, дзе там хто ў прасцітуткі гэтыя набірае, але ж не прынялі яе, сабяседаванне яна не прайшла. Рашыла яна тады закончыць жыццё самаўбійствам. Пазваніла ў міліцыю і кажа: прыходзьце да мяне, пажалуйста, я тут жыццё самаўбійствам буду заканчываць, дык за сынам маім прысматрыця. Ну, міліцыянер ёй кажа: пачакайце, жэншчына, пакуль што самаўбійствам жызнь не канчайце, я зараз прыйду. Прыйшоў, пагаварыў з Вікаю, ну, яна і перадумала. Работае там дзесьці ў Рэчыцы цяпер...

**Пластмасавае сэрца**

Ты ж ведаеш, Анька, Балабінчыкаў тых, з-пад Барца? У іх яшчэ стагі сена леташнія стаяць, гніюць. Гэты ж Балабінчык таксама інвалід. Наш дзедушка інвалід, і ён. Толькі наш дзед настаяшчы інвалід, а пра Балабінчыка я табе раскажу. Празналі яны, што інвалідам і сена бясплатна даюць, і льготы ўсякія, і пенсія ў іх большая. І сталі яны думаць, як бы і ім інвалідамі здзелацца. Ага, думаюць, трэба з дактарамі пасаветавацца. Павезлі у Рэчыцу да ўрачоў яечкі, мяса, кабана спецыяльна забілі, падаркі ўсякія. Думалі ўрачы, думалі, што з Балабінчыкам рабіць, і прыдумалі: уставілі яны яму пластмасавае сэрца, зашылі ў грудзі і напісалі, што інвалід. Ты чуў, ты бачыў, што прыдумалі? І цяпер ім і сена, і пенсія, і забор калхоз пакрасіў. А наш дзедушка так і не папросіць нічога ніколі, хоць і самы настаяшчы інвалід.



**Ганна Севярынец**

Нарадзілася ў Мінску. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Выкладчык, журналіст. Аўтар праекта «Аксамітавая Беларусь» на беларускім жаночым партале Velvet.

**Дамова з Богам**

Ці веру я ў Бога? Не знаю, унучачка. Калі ён есць, дак у мяне ж у кожным куточку іконы паразвешаны, у ручнічках, усе як трэба... А калі яго няма, дык іконы ж тыя есці не просяць.....

**Правільнае пахаванне**

Э-э-э, Анька, пра Васіля ты пытаешся.... Памёр летась Васіль. Пайшоў кароў пасвіць ды і ўпаў там. Вечарам каровы ідуць, а пастуха няма. Маня, жонка ягоная, пабегла на поле, а ён ляжыць. Яна думала, ён п'яны, а ён мёртвы. Ну, паклікала мужыкоў, прывезлі яго... Ага... Пахароны Маня харошыя здзелала, очэнь харошыя... І стол накрыла, людзей назвала, багата так усё... Ну, і прычытала яна над гробам тожа хараша, так: *(прыпамінае, дзелавітым тонам)* ах ты ж мой Васілёчак.... на каго ж ты мяне пакінуў.... як жа ж я цяпер без цябе... Карацей, хараша так прычытала, правільна, маладзец.

Былі сярод яе гісторый і трагічныя.

**Пра мамку**

Калі вашага дзедушку на вайне параніла, ён ляжаў у госпіталі. Бацька іхны таксама на фронце быў. А мамка з шасцёрамі дзецьмі — ва Унорыцы бедавала. І вось памірае яна ад тыфу. І дзеці застаюцца адныя: Акуліна старэйшая, ёй пятнаццаць год, і малыя, самай малодшай, Марыйцы, тры. Есці няма чаго, надзець няма чаго, малыя плачуць. І тады Акуліна стала хадзіць з імі на мамкіну магілку. Утрам устануць, пакорме яна іх што там знойдзецца, возьмуцца за ручкі і ідуць чэраз усю дзярэўню на кладзьбішча. Там ля мамкі сядуць, Акуліна ім песенькі пяе, валосікі расчэсвае, нейкую траўку рвуць. Як вечар — апяць за ручкі бяруцца і дамой ідуць. І так кажны дзень. Хто глядзеў —ва ўсіх сэрца рвалося. Тады напісалі на фронт бацьку. І яго ў сорак чацвертым адпусцілі дамой, каб дзяцей ужо глядзеў.

Яна любіла сюжэты і ў жыцці. Зрабіць з чарговага пазачарговае, са звычайнага — авантурнае, са штодзённага — неверагоднае было для яе ўлюбёнай справай. Аднойчы, памятаю, баба Маруся таемным шэптам паклікала мяне з хаты ўагарод. Зайшлі мы за хлеў, у высокую зеляніну. Тут баба раптам скінула з сябе мурзатую хатнюю сукенку, вокамгненна нырнула ў святочнае ўбранне, сунула старое адзенне мне ў рукі і зашаптала:

**Празналі яны, што інвалідам і сена бясплатна даюць, і льготы ўсякія, і пенсія ў іх пабольша. І сталі яны думаць, як бы і ім інвалідамі здзелацца**

— Праз тры гадзіны вынесеш мне гэтае сюды ў гарод. Хацім з дзеўкамі троху пасядзець, суседа нашага прыгласілі, стол накрылі... Я халоднае ўзяла, агурочкаў, рыбы той з халадзільніку, тут во, у батве схавала. Дзеду нічога не гавары, я не хачу, штоб ён знаў. Калі запытае, скажаш, што травы пайшла свінням рваць.

Дзед мой быў чалавек надзвычай міралюбівы, дарэчы.

Пасля пнеўманіі ляжала мая баба зусім слабая. За восемдзесят шэсць год яна не хварэла ніколі, гэта была першая і апошняя яе хвароба: калі летась па Беларусі прайшоўся Хаўер, закідаўшы агароды снегам і затрымаўшы пасяўную, баба Маруся, босая, у адным амаль што халаціку, пасадзіла пад лапату сотку ранняе бульбы.

Я сядзела побач з ложкам, пільна ўглядаючыся ў выпіску з гісторыі хваробы, і намагалася адшукаць хоць якую-небудзь надзею ў пераліку дыягназаў і лекаў. І раптам пабачыла дадзеныя пры паступленні ў бальніцу: рост — 149. А я і не заўважала, што баба мая — такая маленькая. Каб троху павесяліць даражэнькую хворую, якая ўжо і не ўставала, і не размаўляла амаль, кажу:

— Ой, бабуля, а што гэта вы ў нас, такая маленькая заўсёды былі? Ці стапталіся за жыццё?

Баба Маруся нават прыўзнялася. Подых сюжэта калыхнуў фіранкі на вокнах.

— Заўсёды была, унучачка. Заўсёды была маленькая. З-за гэтага я і за дзедушку вашага замуж пайшла. У мяне ж кавалераў многа было. Надта многа. А толькі ўсе яны гаварылі мне: харошая ты, Маруся, а толькі нам па росце не падыходзіш. А дзедушка ваш на аднойназе з фронта прыйшоў, якраз яму маленькая дзевачка была патрэбна.

Тры бабіны сыны не адыходзілі ад яе ложка да самага канца. Гатавалі ёй прысмакі, якіх яна не магла есці, прычэсвалі сівыя валасы, пад рукі вадзілі паглядзець у акно на Дняпро...

Апошнія словы яна сказала сярэдняму:

— Дзяржы мяне за рукі, глядзі мне ў вочы.

Яна ўмела рабіць моцны фінал.

# «Гары Потэр» для дачкі

Неяк Вольга і Павал Быкоўскія з дачкой Настай схадзілі ў кіно на «Гары Потэра». Пасля гэтага дачка, не самы вялікі аматар чытання, заявіла бацькам: з'явіцца кніжка пра Гары Потэра пабеларуску — прачытаю.

«Няма пытанняў!» — падумала маці і села за пераклад папулярнай сагі.

Вольга — рускі філолаг па адукацыі, працуе журналісткай. Свой узровень ведання англійскай мовы ацэньвае як сярэдні. Праца над перакладам заняла ў яе каля года. Нядаўна 55 асобнікаў першага друкаванага перакладу знакамітай кнігі пра хлопчыка-чарадзея пабачылі свет.

У інтэрнэце «Потэр» пабеларуску быў і раней. Калі Вольга толькі пачынала, ужо існаваў пераклад з расейскай мовы (аўтары Андрэй Багач, Андрэй Філіпчык і Дзяніс Мускі). Пазней з'явіўся і пераклад з арыгінала (аўтар — Дзяніс Мускі).

Вольга вырашыла не кідаць пачатай справы. Да таго ж жанчына імкнулася адаптаваць свой пераклад для дзяцей і падлеткаў — пісаць лёгкай, яснай мовай.

Вольга падкрэслівае, што выданне — некамерцыйнае. Прыбытку з гэтага яна не мае. «Выдавецтва «Сам сабе перакладчык, вярстальнік і чытач» — напісана на першай старонцы кнігі. Адзіным рэдактарам быў муж, а карэктарам — камп'ютар.

«Фактычна, я вырашыла выдаць яе для сябе, — прызнаецца жанчына. — Але падумала, можа, каму гэта будзе цікава і прапанавала ў Фэйсбуку па сабекошце. Аказалася, што такіх людзей не так і мала — каля 50 чалавек адпісаліся, што хочуць асобнік».

Цяпер Вольга працуе над іншымі кнігамі пра Гары Потэра:«Спадзяюся, пакуль перакладу, хтосьці з выдаўцоў захоча гэта надрукаваць. З усімі правамі, са сваім мастаком. Урэшце, кніга перакладзеная на 64 мовы, а афіцыйнага беларускага перакладу няма».

**Аксана Рудовіч**



## ФУТБОЛ

### Ліга Еўропы




**Беларускія клубы** пачынаюць свой удзел у розыгрышы Лігі Еўропы. У другім кваліфікацыйным раўндзе стартуе адразу тры каманды. Усе яны свае гульні правядуць 17 ліпеня.
Мінскае «Дынама» на стадыёне «Трактар» прыме фінскі клуб «МюПа-47». Пачатак а 18:30.
Гродзенскі «Нёман» дома згуляе з ісландскім «Хабнарф'ёрдзюрам». Пачатак а 20.
Таксама ў гэты дзень у Ірландыі салігорскі «Шахцёр» пазмагаецца з «Дэры Сіці». Матчы ў адказ — праз тыдзень.

### Тур 18

**Працягваюцца матчы чэмпіянату Беларусі па футболе.** 19 ліпеня сустракаюцца:
«Нафтан» (Наваполацк) — «Белшына» (Бабруйск);
«Слуцк» —БАТЭ (Барысаў).
20 ліпеня:
«Днярпо» (Магілёў) — «Гомель»;
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Шахцёр» (Салігорск);
«Дынама» (Мінск) — «Дынама» (Брэст);
«Мінск» — «Нёман» (Гродна).

## ІМПРЭЗЫ

### Літкавярня ў «Галіяфах»

**16 ліпеня кнігарня «Галіяфы» (Валгаградская, 6)** ладзіць прэзентацыю першай у Мінску Літкавярні, падчас якой выступяць Сяргей Вераціла, Сяргей Сыс, Альгерд Бахарэвіч. Пачатак а 19.

## КАНЦЭРТЫ

### Re:Live

**17 ліпеня ў клубе Re:Public (Прытыцкага, 62)** у рамках праекта Re:Live выступяць Паліна Рэспубліка, Navi і Tanin Jazz (з новым праектам «Адліга»). Білеты ад 50 да 100 тысяч рублёў.

### «Змяя»

**20 ліпеня а 19 у TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 9)** выступае гурт «Змяя».

### Akute

**20 ліпеня а 19 у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — акустычны канцэрт гурту Akute.

### «Адзіс Абеба»

**21 ліпеня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** грае рэгі-гурт «Адзіс Абеба». Пачатак а 19.

### Apple Tea

**23 ліпеня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — выступ джазбэнду Apple Tea. Пачатак а 19.

### «Разбітае сэрца пацана»

**24 ліпеня а 19 у Jack Club (Няміга, 12)** ладзіць вялікі шоу-канцэрт гурт «Разбітае сэрца пацана».

## ВЫСТАВЫ

### Фотаздымкі для дакументаў

**У галерэі «Ў» (Незалежнасці, 37А)** працуе выстава прадстаўніка Каўнаскай школы фатаграфіі Вітаўтаса Станёніса «Фотаздымкі для дакументаў». 1946 год. Пасляваенны час. У акупаванай Літве новая ўлада замяняе пашпарты. У абсталяваным у доме Вазбуцкіса атэлье жыхароў Сейрыяй і ваколіц фатаграфуе Вітаўтас Станёніс. Праз гады сын фатографа знайшоў стужкі, і гэты матэрыял падаўся яму выключна цікавым.

### Рэчы паміж жыццём і смерцю

**Выстава «Рэчы паміж жыццём і смерцю»**, што экспануецца ў Гістарычным музеі (К. Маркса, 12), складаецца з тысячы дробных прадметаў, неабходных для выжывання ў акопах. Гэтыя рэчы сімвалізуюць розніцу паміж жыццём і смерцю, а таксама тое, што і на вайне чалавек застаецца чалавекам. Выстава распавядае пра штодзённае жыццё падчас войнаў, носіць апалітычны і гуманістычны характар. Яна падрыхтавана Музеем Арміі ў Стакгольме ў супрацоўніцтве з вядомым калекцыянерам Турб'ёрнам Ленскугам.






### «Басовішча-2014»

**18–19 ліпеня на лясной палянцы Борык ля мястэчка Гарадок на Беласточчыне (Польшча)** пройдзе штогадовы фестываль беларускай музыкі «Басовішча-2014». Удзельнікі: Лявон Вольскі, «Крама», «Гайдамакі», R.U.T.A., «Троіца», TT-34, Litvintroll, :B:N:, IQ48, Re1ikt, Nizkiz, Avias, «Тлушч», 5set5, Warsaw Balkan Madness, Abba Orkiestra, Hal+Argon і іншыя. Уваход вольны.

## ТЭАТР

### 16 ліпеня

**Беларускай драматургіі** — Фінт-Круазэ
**Купалаўскі** — Вечар

### 17 ліпеня

**Беларускай драматургіі** — Фінт-Круазэ
**Купалаўскі** — Офіс

### 18 ліпеня

**Купалаўскі** — Пінская шляхта

### 20 ліпеня

**Купалаўскі** — Чорная панна Нясвіжа

### 22 ліпеня

**Купалаўскі** — Хам

### 23 ліпеня

**Купалаўскі** — Вячэра з прыдуркам




### «Нельга забыць»

17 ліпеня ў паб-клубе «Графіці» адбудзецца «Антываенны канцэрт». Удзельнікі: «Нельга забыць», Антон Рудак, Раман Абрамчук і анты-кавербэнд «Гарадскі вал». Уваход: 50 000.

## КІНО

### Джоні ў сусветным сеціве

Перавага
**Жанр:** фантастыка, трылер, драма
**Рэжысёр:** Уолі Пфістэр
**У ролях:** Джоні Дэп, Рэбека Хол, Пол Бетані, Кіліян Мёрфі, Кейт Мара, Коўл Хаўзер, Морган Фрыман
Вялікабрытанія, Кітай, ЗША, 119 хв.

Навуковец Уіл Кастэр (Джоні Дэп) спецыялізуецца ў вывучэнні штучнага інтэлекту і працуе над стварэннем камп'ютара, які зможа ўсвядоміць сваё існаванне і ўвабраць досвед усяго чалавецтва. Ён так імкліва рухаецца ў сваіх даследаваннях, што набывае вядомасць геніяльнага навукоўца, а таксама становіцца небяспечным аб'ектам у вачах антытэхналагічнай тэрарыстычнай групоўкі. Яе адэпты здзяйсняюць напад на шэраг лабараторый і самога Кастэра. Смяротна паранены навуковец разам з жонкай Эвелін і калегам Максам Вотэрсам вырашаюць зрабіць тэхналагічны прарыў: алічбаваць мозг Кастэра, стварыўшы яго віртуальную копію, падмацаваную магчымасцямі штучнага інтэлекту. На пачатку эксперыменту яны не да канца ўсведамляюць, куды гэта завядзе і Кастэра, і ўвесь свет.
Сталы аператар Крыстафера Нолана («Цёмны рыцар» (2008, 2012), «Пачатак» (2010)), аскараносны Уолі Пфістэр дэбютаваў як рэжысёр з навукова-фантастычнай стужкай. Сюжэт апавядае пра машынны апакаліпсіс, але мае свае асаблівасці: бяздушная машына набывае рысы чалавека і дзейнічае як іншая, новая істота. Паводзіны яе тым не менш прадказальныя, але да чаго яны прывядуць у перспектыве — адназначнага адказу няма, ды і быць не можа. Пфістэр ставіць складаныя пытанні як экалагічныя, так і этычныя; Дэп не мяняе свайго амплуа фрыка, цяпер — фрыка ад навукі.
Моцны, стылёвы фільм, які адсылае да сюжэтаў класічнай фантастыкі, але прапануе новы погляд, прадыктаваны сучаснасцю.

**Настасся Уласава**



# Не мела баба клопату — завяла краба

Найбольш дзіўныя перасяленні прадстаўнікоў флоры і фаўны.


Камчацкі краб.
VLADIVOSTOK.LIVEJOURNAL.COM


Рак.
RU.WIKIPEDIA.ORG


Баршчэўнік.
MINSKNEWS.BY


Ратан.
PEREPOLOH.LV

Гэтым летам, як і ў папярэднія гады, у Мінску, ды і ў іншых гарадах краіны, становіцца актуальнай праблема барацьбы з баршчэўнікам Сасноўскага. Гэтая атрутная расліна наносіць шкоду не толькі людзям, якія маюць няшчасце дакрануцца да яе якойнебудзь часткай цела, але таксама і эканоміцы краіны: толькі сёлета плануецца выдаткаваць на барацьбу з баршчэўнікам 800 млн рублёў. Летась было выдаткавана 730 млн. І гэта толькі ў сталіцы!

А першапачаткова баршчэўнік завозіўся ў Беларусь у якасці корму для жывёлы і лічыўся ледзь не самым перспектыўным відам, прыдатным для ўжывання скацінай. Дарэчы, гэта не адзіны такі прыклад правальнай інтрадукцыі, які прывёў да не самых радасных наступстваў для экасістэм, у якія штучна ўкараняліся новыя віды.

## З баршчэўнікам кашы не зварыш

Баршчэўнік Сасноўскага першапачаткова рос на Каўказе, у закаўказскім рэгіёне і ў Турцыі. Ён прыцягнуў увагу савецкіх спецыялістаў у галіне сельскай гаспадаркі ў першую чаргу сваёй трываласцю: расліна выдатна расце нават у халодным клімаце. Упершыню ён быў інтрадуцыраваны ў паўночна-заходніх рэгіёнах РСФСР у 1947 годзе. Затым пачалося распаўсюджванне баршчэўніка ў Беларусі, Украіне, краінах Балтыі. Завезлі яго нават у ГДР. Першапачаткова баршчэўнік выкарыстоўваўся як сіласная культура, а ў батанічных садах расліну культывавалі як дэкаратыўную. Аднак неўзабаве баршчэўнік, жывучы і непатрабавальны, пачаў распаўсюджвацца на вялікія тэрыторыі.

Немалаважным з'яўляецца таксама і той факт, што расліна мае здольнасць да самаапылення, а таксама высокую «пладавітасць» (штогод адна расліна дае каля 30 тысяч пладоў). З-за свайго імклівага росту і распаўсюджвання баршчэўнік хутка душыць амаль усё, што расце па суседстве з ім, каб працягнуць сваю экспансію. Складанасць барацьбы з баршчэўнікам яшчэ і ў тым, што не ўсё яго насенне прарастае вясной наступнага года. І калі баршчэўнік быў знішчаны, то насенне, якое засталося на гэтым месцы, можа прарасці нават праз 12 гадоў.

Акрамя таго, што баршчэўнік захоплівае новыя тэрыторыі і душыць мясцовыя віды раслін, ён з'яўляецца атрутным і здольны нанесці шкоду чалавеку пры дотыку да скуры. Пры гэтым апёк можа з'явіцца як праз некалькі хвілін пасля кантакту з раслінай, так і праз суткі — тады, калі на пашкоджаны ўчастак патрапяць сонечныя промні. Спачатку адчуваецца моцная пякота, затым скура чырванее, пад ёй утвараецца вадкасць, з'яўляюцца пухіры. Пасля таго, як яны сыхо-дзяць, скура набывае буры колер. І такія пашкоджанні не праходзяць каля двух месяцаў.

Вось такая кармавая культура. Наеліся, карацей кажучы.

## Мішэнь для браканьераў

Каб добра карміць не толькі скаціну, але і некаторыя катэгорыі сваіх грамадзян, у СССР быў праведзены яшчэ адзін эксперымент з перасяленнем. Спробы адаптаваць камчацкага краба, распаўсюджанага ля ўсходніх берагоў Саюза, у Баранцавым моры адбыліся ў 1960-х гадах ХХ стагоддзя.

Краб пачаў абжывацца актыўна. На сённяшні дзень яго папуляцыя ў Баранцавым моры больш чым у тры разы перавышае далёкаўсходнюю! Вядома, камчацкі краб — каштоўны від, мяса якога лічыцца далікатэсам і каштуе немалых грошай. Вось толькі такое нашэсце чужародных крабоідаў можа няслаба падпсаваць мясцовую экасістэму. Напрыклад, краб, з'яўляючыся драпежнікам, ужо паспяхова знішчае ікру некаторых каштоўных прамысловых рыб, такіх як траска, з-за чаго іх папуляцыя зніжаецца.

Цяпер прыхадзень ужо дабраўся аж да Лафатэнскіх выспаў. На сённяшні дзень рост колькасці краба рэгулюецца не столькі квотамі на промысел (якія, дарэчы, былі прадметам спрэчак паміж Расіяй і Нарвегіяй, якая прызнала краба шкодным прыхаднем, які павінен быць цалкам вынішчаны), колькі браканьерствам сур'ёзных маштабаў. Такім чынам, свет можа стаць сведкам унікальнага выпадку — браканьеры выратуюць экасістэму мора!

## Малы ды ўдалы

Яшчэ адным «выдатным» эксперыментам з'яўляецца спроба акліматызацыі ратана ў еўрапейскай частцы Расіі. Першапачатковае асяроддзе пасялення гэтай рыбы — паўночны ўсход Кітая, частка Карэі, а таксама далёкаўсходні рэгіён Расіі. Адным словам, зусім не еўрапейскі від. У 1980-х гадах ратан быў заселены і ў Беларусі. На сённяшні момант гэты від рыбы распаўсюдзіўся ў краінах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, апанаваў большую частку тэрыторыі Расіі.

Ратан лічыцца шкоднай рыбай, якая імкліва выцясняе мясцовыя віды. Справа ў тым, што ратан — рыба драпежная і ненажэрная — есць ікру і малькоў іншых рыб, у тым ліку і каштоўных парод. Добра, што ратан не грэбуе і ўласнай ікрой і маладняком (часам іх аб'ём можа дасягаць 80% у рацыёне), інакш ён бы мог стаць ці не адзіным відам рыбы ў некаторых вадаёмах.

Ратан — рыба невялікая. Мае памер да 25 см і вагу да 350 г. Ён можа спакойна (хоць куды там спакойна, даволі актыўна) жыць і пладзіцца ў забруджаных вадаёмах. Холад яго таксама не бярэ: здараліся выпадкі, калі ратан умярзаў у лёд, аднак потым адтайваў і жыў сабе далей. Тая ж сітуацыя і з засухай.

Наступствы ад з'яўлення ратана ў вадаёмах не самыя суцяшальныя — прыхадзень аператыўна зніжае колькасць іншых рыб, у той час як яго самога прамысловым назваць ну ніяк не атрымліваецца. Хоць у наро-дзе ўжо маюцца розныя віды яго перапрацоўкі: сушка, смажанне, нават выраб катлет. Што цікава, ратан ужо паспеў стаць зброяй у класавай барацьбе. Так, у 2011 го-дзе ў Бардзюжскім раёне Цюменскай вобласці Расіі мясцовыя жыхары, незадаволеныя дзеяннямі губернатара, па ўказе якога ўсе рыбныя азёры рэгіёна былі здадзены ў арэнду (у выніку чаго доступ звычайных людзей да азёраў быў абмежаваны), запусцілі ў гэтыя самыя азёры ратана. Які ў кароткія тэрміны абжыўся і выцесніў амаль усю іншую рыбу.

## Чума на нашых ракаў

З распаўсюджваннем гэтага віда наогул выйшла феерычная гісторыя. Справа ў тым, што ў 1870-х гадах спачатку па Францыі, а потым і па ўсёй Еўропе пракацілася рачыная чума, якая забрала жыцці велізарнай колькасці ракападобных: у некаторых рэгіёнах ракі зніклі зусім. Не абышла пошасць і Расійскую Імперыю. Так што беларускім ракам таксама салодка не прыйшлося. І пасля такога спусташэння рачыную папуляцыю ў Еўропе вырашылі аднавіць шляхам завозу з ЗША амерыканскага сігнальнага рака. Вось толькі позна высветлілася, што дадзены від рака з'яўляецца пераносчыкам гэтай самай рачынай чумы, аднак сам застаецца да яе неўспрымальным. Цяпер гэты рак лічыцца адным з самых небяспечных інвазійных відаў у Еўропе, з ім змагаюцца ў 25 краінах кантынента. А ў Даніі ён цалкам выцесніў мясцовыя віды ракаў.

Дарэчы, сваю назву гэты від рака атрымаў з-за белай або сіне-зялёнай плямы, размешчанай на суставе яго клюшні, якая і нагадвае сцяг сігнальшчыка. Гэты від больш пражэрлівы (нават здольны есці больш дробных суродзічаў), устойлівы да забруджвання вады і недахопу кіслароду, а таксама мае высокі тэмп росту.

У Беларусі амерыканскі сігнальны рак з'явіўся каля 20 гадоў таму ў некаторых прытоках Нёмана. Цяпер ён працягвае распаўсюджвацца па тэрыторыі краіны і засяляць усё новыя вадаёмы. Такая актыўнасць, калі яе своечасова не спыніць, можа прывесці да татальнага знікнення цяпер вядомых у Беларусі ракаў — вузкапалага і шыракапалага (занесенага ў Чырвоную кнігу). Менавіта таму дзяржава не абмяжоўвае лоўлю амерыканскага сігнальнага рака — яго можна лавіць круглы год і ў неабмежаваным аб'ёме. Так што, калі ведаеце, дзе ён вядзецца — гуляй, душа!

## З арлекінам не да смеху

Першапачаткова азіяцкую божую кароўку, якая жыла ў Кітаі, Японіі, Казахстане і Далёкім Усходзе Расіі, завезлі ў Заходнюю Еўропу для барацьбы з тлёй і іншымі распаўсюджанымі шкоднікамі ў 1991 годзе. Аднак тут атрымалася сітуацыя, якая нагадвае вопыт інтрадукцыі сігнальнага рака: азіяцкія божыя кароўкі пераносяць грыбок, які з'яўляецца смяротным для іх еўрапейскіх суродзічаў. Увогуле, прыхадні хутка акліматызаваліся і пацяснілі мясцовыя віды, працягваючы захопліваць новыя тэрыторыі. Цяпер гэтая напасць развялася па ўсёй Еўропе і нават у Паўночнай Афрыцы.

Азіяцкая божая кароўка па памерах дакладна такая ж, як і еўрапейская сямікропкавая. Аднак яе размалёўка можа быць цалкам рознай, таму яе часта называюць арлекінам. З-за сваёй актыўнасці яна была занесеная ў спіс ста самых небяспечных арганізмаў Глабальнай базы дадзеных па інвазіўных відах. Небяспечная азіяцкая імігрантка і для чалавека: яна можа кусаць людзей, выклікаючы алергічную рэакцыю.

Акрамя таго, азіяцкія божыя кароўкі аказаліся не зусім прыдатнымі для выканання сваіх першапачатковых функцый — барацьбы з тлёй на вінаградніках. Справа ў тым, што тлю яны ядуць актыўна, аднак, трапляючы ў перапрацоўку разам з вінаградам, псуюць смак віна. Азіяцкія прыхадні шкодзяць яблыкі, грушы, цытрусавыя культуры і нават бульбу. Карацей кажучы, зноў людзі знайшлі праблем на сваю (ды і не толькі) галаву.

У Беларусі пакуль гэтыя азіяцкія божыя кароўкі не з'яўляюцца напасцю, аднак у Польшчы і Літве ўжо сустракаюцца даволі часта. Улічваючы тое, з якой хуткасцю гэты від плодзіцца і рассяляецца (усяго за два гады ім удалося захапіць усю тэрыторыю Галандыі), ужо хутка можна чакаць яго актыўнасці і ў нас.

**Зміцер Міцкевіч**


СЯРГЕЙ СЕРАБРО, «НАРОДНЫЯ НАВІНЫ ВІЦЕБСКА»

**Украінская спявачка Вераніка Дораш на конкурсе маладых выканаўцаў «Славянскага базара» выйшла на сцэну ў жоўта-блакітнай сукенцы, пад колеры нацыянальнага сцяга. «Я люблю родную Украіну, і ўдзячная за тое, што вы нас падтрымліваеце. Дзякуй, Беларусь і Віцебск», — сказала Дораш. Безумоўным жа пераможцам стаў мексіканец Радрыга дэ ла Кадэна (на малым фота). Большыя авацыі за яго змагла сабраць запрошаная зорка — нарвежскі беларус Аляксандр Рыбак.**


TUT.BY

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Сотні вайсковых машын і дзясяткі зенітна-ракетных комплексаў былі паказаныя на выставе ўзбраенняў «Мілекс» на «Мінск-Арэне». Сярод наведвальнікаў звыкла быў памочнік прэзідэнта ў пытаннях бяспекі Віктар Лукашэнка.**



**Пяціразовы алімпійскі чэмпіён, аўстралійскі плывец Ян Торп, прызнаўся ў сваёй нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыі.**



**Сотні смельчакоў уцякаюць ад раз'юшаных баявых быкоў у іспанскай Памплоне падчас штогадовай фіесты Сан-Фермін.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Увогуле, Віні-Пух не хацеў жаніцца, але адна думка пра мядовы месяц прымушала яго задумацца.

* * *

Гаспадыня — госцю:

— А што гэта вы, паважаны, сваю пысу аб фіранку выціраеце?

Госць:

— Дык вы ж самі сказалі: не саромейцеся, будзьце як дома.

* * *

2060. Вяртаешся дадому пасля экскурсіі на Марс, здымаеш экзашкілет, даеш ванне ўказанне напоўніцца і тэлепартавацца ў спальню. Сам у гэты час капіюеш з мозгу на флэшку ўспаміны аб экскурсіі. Затым залазіш у ванну, а яна ледзяная. Ты зусім забыўся, што на два тыдні адключылі гарачую ваду.

* * *

Калі ты кажаш: «Гэта не тэлефонная размова», то дзесьці сумуе кадэбэшнік.

* * *

— Алё, гэта доктар?

— Так, слухаю вас.

— Доктар, я па вашай парадзе клізму купіла, а далей што?

— Устаўце яе сабе ў задні праход!

— Добра, доктар, у вас настрой не вельмі, я пазней ператэлефаную.

* * *

Калі грошы мераць кучкамі, то ў мяне ямка.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Смаргонь.** Пашла пагалоска, што ў Віллі ходзіць «вялікая рыба» — کракадзіл, спушчаны ў Вільні з звярынца. Нямаведама адкуль пайшла гэтая брахня, толькі простыя людзі ёй вераць, а іншыя дык ужо баяцца і хадзіць блізка каля рэчкі, каб не схапіла іх «рыба-кракадзіл». Дзіўна, дзе сядзеў бы гэты «кракадзіл», калі ў Віллі і вады сёлета ўсяго, як таракану ўтапіцца.

**«НН». №28. 1914.**

**Бацька палавіны нацыі.** З аднаго боку, у Лукашэнкі ёсць еўрапейскія прававыя інстынкты, якія дазваляюць Беларусі мець узровень карупцыі, роўны славенскаму. З іншага боку, ён жыве паводле ўласных маральных нормаў, як такі сучасны Рудзівон Раскольнікаў. У эканоміцы ён даўёў сваю адносную эфектыўнасць, а ў культуры і палітыцы ён — эгацэнтрычны фанатык улады, які бязлітасна знішчае любую альтэрнатыву, — гаворыць Валер Булгакаў, рэдактар часопіса Arche.

**«НН». №26. 2004.**


**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7250. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 15.07.2014.
Замова №2798.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614


